


ВЫДАВЕЦ РЭДАКЦЫЯ ГАЗЭТЫ «НАША НІВА»
HTTP://MEMBERS.XOOM.COM/NASA_NIVA

# АД ЛІПЕНЯ «НН» СТАНЕ ШТОТЫДНЁВАЮ

Ад першага ліпеня «Наша Ніва» будзе выходзіць кожны тыдзень. Аформіўшы падпіску, вы будзеце атрымліваць газэту ня два, як раней, а чатыры разы на месяц. Газэта будзе заставацца найвярнейшым люстэркам жаданьняў і патрэбаў беларускага народу.

Усё беларускае пачыналася з «Нашай Нівы». Ад самага стварэньня ў 1906 годзе штотыднёвая газэта была галоўнай трыбунай палітыкі, гаспадаркі, літаратуры, навукі. З «Нашай Нівы» ішла дарога Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Зьмітра Жылуновіча, Антона Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага. Але галоўнае, яна была голасам людзей з усёй Беларусі і Літвы. Спыніла выхад газэты першая сусьветная вайна. У 1920 годзе выданьне спрабавалі зноў распачаць, але здолелі выдаць толькі дзевяць нумароў.

У 1991 годзе «Наша Ніва» была адноўленая ў Вільні, у калысцы беларускай ідэі і беларускай сучаснасьці. Вы трымаеце ў руках ужо сто трыццаць першы нумар газэты. Усе гэтыя гады яна жывілася й жывіла тым беларускім духам, які ня быў выкрыўлены й перакручаны савецчынай і расейшчынай, зьвязвала разарваныя ніці, ткала новую аснову. Яна адразу стала больш чым газэтай — кропкай пачатку каардынатаў, чыстым жаданьнем, гіпэртэкстам на паперы, жывым целам культуры. Падзеі дзесяцігодзьдзя рабілі краіну больш самастойнаю, але яшчэ не зрабілі больш беларускаю. Беларусь мянялася, газэта заставалася.

У 1996 годзе, на дзевяностым годзе свайго існаваньня, 1 сакавіка, «Наша Ніва» пераехала ў Менск. Тады пачалася менская вясна змаганьня за незалежнасьць. Мы ішлі поруч з тымі, хто верыў і рабіў, і заўсёды займалі ясную пазыцыю, зыходзячы з нацыянальных інтарэсаў Беларусі і прадстаўляючы думку беларускай інтэлігенцыі.




**Панядзелак з «Нашай Нівай» будзе адкрываць кожны тыдзень. Пачынаецца новае беларускае стагодзьдзе.**

## Лені Фішэр:

# «ШКАДА, ШТО Я НЯ ВЕДАЮ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ»



*Лені Фішэр з 1993 па 1997 год была прэзыдэнтам Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы. У той час яна наведвала Беларусь, спрабуючы засьцерагчы краіну ад спаўзаньня ў тупік самавольства. Сёньня яна ўжо пакінула пасаду, хоць застаецца Ганаровым старшынёй Асамблеі, і па-ранейшаму падоўгу працуе ў Страсбургу, і па-ранейшаму цікавіцца і займаецца Беларусяй. Толькі гутарыць зь ёю цяпер нашмат цікавей — яна больш не зьвязаная неабходнасьцю хавацца за дыпляматычную безаблічнасьць афіцыйнай пазыцыі.*

**«НН»: Вы ня раз наведвалі Беларусь. З чым асацыюецца ў Вас наша краіна?**

Л.Ф.: З Чарнобылем. Я добра помню наведваньне рэактара. Зь людзьмі, якія жывуць пад Чарнобылем, небагата жывуць, але не клянуць сваёй долі, а проста ціха мараць пра трохі лепшае, дастойнае жыцьцё, проста жыцьцё бяз нэндзы. Са стаўленьнем гэтых шчырых і простых людзей да Чарнобыля.

*Працяг на старонцы 5*

### ВОСТРАЯ БРАМА

# ГРУНВАЛЬД, ЯКІ НЯ СТАЎ НАШЫМ

**Гадоў дзесяць таму ў Беларусі пачаўся бум цікавасьці да мінуўшчыны краіны. Пісаліся й выдаваліся новыя падручнікі, мастацкія творы, слоўнікі й энцыкляпэдыі. Усё гэта не без ажыятажу вітала публіка. Прычына натхненьня хавалася ў тым, што ў друку зьявіліся праўдзівыя факты і бесстароньнія трактоўкі гістарычных падзеяў, чаго за савецкім часам не магло быць.**

**За часоў Лукашэнкі гэтая хваля пайшла на спад. Гісторыю пачалі зноў перапісваць на савецкі або расейскі імпэрскі лад, праўда зноў зьмяшалася з хлусьнёй і перастала выклікаць давер. Беларуская мінуўшчына зноў выпала з поля зроку публікі і як навука, і як складнік выхаваньня, і як прывабная таямніца.**



**«У якую гістарычную эпоху вы марылі б жыць?» — запытаўся карэспандэнт «НН» Севярын Квяткоўскі ў менскіх студэнтаў-гісторыкаў. Большасьць абрала сучаснасьць. Але зьвярніце ўвагу на матывацыі. Хачу жыць тут і цяпер, бо баюся горшага; мы ня ведаем, дзе можам апынуцца, таму, маўляў, і ня трэба загадваць. Пры такім тлумачэньні статыстыка, калі большасьць апытаных выказваюцца за наш час, выглядае крыху інакш. Яны не выбіраюць лепшае, а нібы просяць не чапаць іх. А гэта ўжо зусім ня тое, што «падабаецца — не падабаецца».**

**І яшчэ адзін адказ студэнта-гісторыка прыцягвае ўвагу: хачу жыць у будучыні, бо дастаткова добра ведаю гісторыю і ў мінуўшчыне мне было б нецікава. Апошні акцэнт сьведчыць, магчыма, пра ўзровень выкладаньня гісторыі. А таксама пра агульны публічны настрой у дачыненьні да гісторыі.**

*Працяг на старонцы 8*

# Зноў напалі на журналіста

21 траўня каля пад'езду дому невядомыя ў цывільным жорстка зьбілі былога супрацоўніка «Нашай Нівы», галоўнага рэдактара газэты "Навінкі" Паўлюка Канавальчыка. У той жа вечар яго паклалі ў шпіталь, бо трэ было тэрмінова рабіць апэрацыю — перабілі яму сківаіцу ды іншых шмат траўмаў. Расправа над ім супала зь легалізацыяй справы яговых рук — сатырычнай газэты «Навінкі», якую нарэшце зарэгістраваў Дзяржкамдрук. Цяпер спрабуюць даведацца, што і як, але з досьведу апошніх гадоў вядома, што зрабіць гэта няпроста. Мабыць, высока сядзяць тыя, хто ўсё гэта падстройвае.

Л.У.

## Павал Севярынец

# САЛЮТ ГЕРОЮ

*Больш за 300 тысячаў дэманстрантаў пад бел-чырвона-белымі сьцягамі назіралі на беразе Сьвіслачы грандыёзны пераможны салют.*

*«Народная газета», нумар за 24 траўня.*

Чытача не павінны палохаць некаторыя звышнатуральныя моманты гэтай гісторыі. Тым больш, таемныя падрабязнасьці, якія маглі б выклікаць масавы шок у грамадзтве, засталіся за кадрам падзеяў. Многія, з кім нам даводзілася размаўляць, зусім не прызнаюць відавочных фактаў, датычных пэўнага часу й месца. Зрэшты, што й казаць: дагэтуль ня так ужо шмат ведама пра легендарны Салют. Таму тут рупліва выкладзена толькі тое, што нам удалося пабачыць на ўласныя вочы й пачуць на ўласныя вушы.

Героем нечакана аказаўся хлопчык, зь якім мы ледзь не сутыкнуліся ўвечары на ўваходзе ў краму. Амаль падлетак, з засяроджаным і пранізьлівым позіркам, даволі нехлямяжы й трохі хваравіты на выгляд, ён прыўстаў каля дзьвераў, прапускаючы нас між зыбкіх шкляных адлюстраваньняў. Мы рынуліся наперад дружнай чаргой, адзін пры адным, гучна пераклікаючыся па-беларуску — ёсьць такі рэфлекс на людзях. Герой пачуў, уім штосьці салідарна скаланулася. Са шчырай усьмешкай ён абярнуўся і пасьпеў наўздагон ухапіць апошняга з нас цікаўным паглядам.

Я рэзка азірнуўся, быццам атрымаў удар у сьпіну. Побач са мной, паражаны гэткім жа інстынктыўным страсеньнем, спуджана шарахнуўся, трымаючы адварот паліто, той самы апошні.

Мы ўсе моўчкі, нібы аглушаныя, уладкаваліся за столікам. Нарэшце нехта, са сьвятарным жахам пазіраючы ў дзьверы, абвёў вачыма астатніх:

— Ё-маё, хлопцы. Фантастыка. Мне здалося, што гэта ён.

— Падобны, — рэхам азваўся іншы, штосьці зморшчана й пакутліва ўспамінаючы. — Я вам вось што скажу, спадарства: прыкладна такі ён і павінны быць.

І гэта быў сапраўды ён. Той самы герой, якога ўсе так доўга чакалі й прадказвалі, якога кожны так хацеў першым угадаць сярод вулічных натоўпаў пакаленьня Х. Той, для каго ўсе мы столькі пісалі, каго спрабавалі разгледзець і над старонкамі сваіх тэкстаў, і між радкоў. Невядомы малады чалавек — ці то пераходнага, ці аспіранцкага ўзросту, з гіпнатычнымі вачыма, які піша геніяльныя вершы, марыць пра бела-чырвона-белы сьцяг па-над горадам і, вядома, чытае вось у гэты момант сёньняшнюю «Нашу Ніву». Словам, як аднойчы прагучала ў «Новага Неба» — той, хто стаіць у мяне за плячыма.

У прынцыпе, гэта нармалёва, калі герой ходзіць па менскіх вуліцах. Дапусьцім, ён нават наведвае прадуктовую «Падкову», што між Унівэрсытэтам, «Дынамам» і вакзалам. Але ўзьнікнуць вось так, без аб'яўленьня вайны, зьнянацку — мы, калі пазналі яго, ледзь не схапілі ўсе разам інфаркт. Мы ня ведалі, што герой зьбіраецца рабіць далей. Мы маглі толькі здагадвацца, што менавіта яму наканавана выклікаць знакаміты, усепераможны Салют. Адзінае, што можна было сказаць з упэўненасьцю — раптоўная сустрэча прадвяшчала старт усім падзеям. Герой зьявіўся, бомба з гадзіньнікавым мэханізмам пачала адлічваць час, і гэта значыла, што якраз такі ўсё й пачынаецца.

Мы моўчкі пераглядваліся, пакуль нехта не сказаў:

— За ім.

Тым часам нашага героя займалі абсалютна чалавечыя рэчы. Ён мінаў дрэва за дрэвам у сквэры блізу «Дынама», і зацёклыя за чатыры гадзіны вучобы зьвіліны марудна круціліся вакол купіць-паесьці, хоць бы нечага смутна-малочнага, альбо таннага, хрусткага й запакаванага. У «Падкове» адзінай радасьцю аказаліся беларускія словы, пачутыя ад афіцыйнай дэлегацыі беларускіх незнаёмцаў у сьпінжаках і паліто͡нах. Сыру, як заўсёды, не было, даражэзны ёгурт каштаваў столькі, колькі паўтузіны чэрствых буфэтных булачак, а да кількі, такой пернай, спажыўнай і захапляльна сьмярдзючай, ён яшчэ быў не гатовы псыхалягічна.



*Працяг на старонцы 12*

## Прадстаўнікі дыктатара наведалі беларусаў Канады

Сёлета 3-га траўня з пасольства Рэспублікі Беларусь у сталіцы Канады атрымалі паведамленьне, што 5-га траўня наведваюць нас у Таронце прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь з Атавы.

Нікога з Лукашэнкавых дыпляматаў у Канадзе мы не запрашалі. Ведалі, што яны ёсьць, але да гэтага часу з нашай арганізацыяй ня мелі кантактаў. Крыху зьдзівіла нас, што якраз цяпер, у такі крызісны для Беларусі час, дзе прэзыдэнт Лукашэнка і ягоны дыктатарскі рэжым натварыў масу папяровых мільянэраў і пхнуў запрыгонены народ на дно галечы, зацікавіліся і намі ягоныя прадстаўнікі.

5-га траўня зьявіліся ў нашым Беларускім Грамадзкім Цэнтры пасол РБ М. Хвастоў, ягоная жонка Галіна і другі сакратар ці віцэ-консул Павал Шыдлоўскі. У вялікай залі сабралася каля паўсотні нашых суродзічаў. Некаторыя зь іх — «новыя канадыйцы» — уліліся ў нашу грамаду за апошніх пару месяцаў, іншыя крыху раней. Гэта ж нашы суродзічы, што добра паспыталі тых «дабротаў», да якіх давялі прыгнечаны народ дыктатар прэзыдэнт і ягоны рэжым на нашай бацькаўшчыне.

Спадар М. Хвастоў тонам настаўніка й прыгожай беларускай мовай паведаміў нам, што некалі скончыў юрыдычны факультэт БДУ і пазалетась прыбыў у Канаду. У сваіх пытаньнях прысутныя цікавіліся ўсімі галінамі жыцьця ў цяперашняй Рэспубліцы Беларусь: гвалтам над дзяржаўнай мовай, культурай, гаспадаркай, наглай русіфікацыяй дый іншым.

Сваімі зручнымі адказамі пасол Хвастоў абвінавачваў усё і ўсіх за некаторыя недахопы, пераважна матар'яльнага дабрабыту, хваліў прэзыдэнта як «глабальнага палітыка»...

На пытаньне, чаму прэзыдэнт і цяпер памагае абкрадзеным у народу дабром: харчамі, вопраткай, палаткамі, коўдрамі, — югаслаўскаму дыктатару Мілошавічу, ня змог грунтоўна адказаць. Іншае пытаньне: чаму ў Горадні хочуць сабрацца махляры з маскоўскай Думы і прэзыдэнт РБ ды ягоныя людзі з «палаты» ў Менску, каб ліквідаваць незалежнасьць РБ? Хвастоў паведаміў, што гэта няпраўда...

Глыбокі недавер выклікалі такія адказы. Гутарка трывала каля трох гадзінаў. Некаторыя з нас спадзяваліся пачуць іншае. Замест таго, хлусьня зь вялікай дозай прапаганды. З залі чуваць былі і галасы на мяжы з лаянкай; сапраўды нялёгка было утрымаць прыстойны тон. Пра што тут ідзе і якую мэту мелі незапрошаныя візытары з Атавы?

Усё ж мяркуем, што й такая сустрэча, нават з ініцыятывы беларускіх дыпляматаў была для нас карысная. Нашыя суродзічы канадыйцы як мага памагалі паняволенаму народу ў мінулым, будуць і ў будучыні.

**К. Акула, Старшыня Наглядна Рады Згуртаваньня Беларусаў Канады**

***

Новая NATO можа стацца вартаўніком-інтэрвэнтам толькі заходняга сьвету, багатых гэтага сьвету, хаця яна й дзеіць сёньня па справядлівасьці, баронячы крыўджаных. Таму і падтрымліваць сёньня трэба не яе, а УЧК. NATO служыць нацыянальнаму вызваленьню толькі тут і ў той жа час спрыяе нацыянальнаму прыгнёту мноства іншых нацыяў. Прыклад – тая ж Турцыя, якую так спрытна выгароджваў колькі нумароў таму сп. Гары Куманецкі. Спадзяюся, што з-за неінфармаванасьці. Турцыя не адзіны прыклад... NATO мае ўсе шанцы стаць сусьветным драпежнікам, пакуль жывая ідэалёгія імпэрыялізму.

**Сяргей Богдан, Маладэчна**

**Віктар Мухін**

## «ARCHE» у Гомелі

Не зважаючы на знобкае слотнае надвор'е, у выставовай залі ўнівэрсытэту сабралася 90-100 чалавек, якія з удзячнасьцю віталі менскіх гасьцёў. Пасьля кароткага ўступнага слова Аўгена Касьцюшкі, прэзыдэнта маладзёвага цэнтру «Яравіт», сіламі якога ладзілася імпрэза, рэй павялі прадстаўнікі «ARCHE». Галоўны рэдактар Валерка Буглакаў распавёў пра гісторыю ўзьнікненьня праекту, мэты і задачы, акрэсьліў пляны на агляднаю будучыню. Адказны сакратар часопісу Юрась Бушлякоў заакцэнтаваў увагу аўдыторыі на матэрыялах першага сёлетняга нумару «ARCHE», прысьвечанага постмадэрнізму. Госьці з задавальненьнем адказвалі на пытаньні прысутных. Тых цікавілі самыя разнастайныя пытаньні: праблема дыялёгу культур у Беларусі, сучаснае становішча беларускай мовы ў грамадзтве, фашыстоўская пагроза ды інш. «ARCHE» выступаў, а «Наша Ніва» ў пэрсоне Зьмітра Бартосіка сьпявала. Сьпявалі таксама Вальжына Цярэшчанка, Андрэй Мельнікаў.

**Стэфан Балён**

## БЕЛАРУСКАЯ КРЫЎДА

Ніколі, напэўна, не дазнаемся, калі зьявілася прымаўка: «Дзе два беларусы, там тры партыі». Надзвычай трапнае выслоўе ня страціць свае актуальнасьці прынамсі на працягу найбліжэйшых дзесяцігодзьдзяў. Для нас сталася звыклаю рэччу: быць у некалькіх партыях ці грамадзкіх арганізацыях адначасова, слухацца ўладаў ды гамані́ць пра іхную нелегітымнасьць, галасаваць паводле розных канстытуцыяў ды на розных выбарах. Для Беларусі гэта пакуль што рэч нармальная. Нармальная ня ў сэнсе адпаведнасьці патрабаваньням клёку, але папросту звычайная. Хіба дурань які, згодна зь лёгікай абываталя, будзе рызыкаваць адкрыта выступаць супраць нечага ці некага — нашто, можна ціха йснаваць — толькі сяброўскія пасьведчаньні зь некалькіх арганізацыяў каб у кішэні надзейна трымаліся. Тады можна лаяцца на ўсіх, называць учорашніх прыяцеляў дурнямі, а ў выпадку чаго, апраўдвацца: «У інтарэсах партыі... Для Беларусі... У імя Канстытуцыі...». Калі ж даходзіць да высьвятленьня праўдзівага стану рэчаў, калі нічога ня зроблена, але прамовы сказаныя, беларус уздымаецца на трыбуну й кажа: «Мне шкодзілі... маскоўскія агенты й КГБ... рэжым... кіраўніцтва дурное... самы гэткі». Усё ўрэшце блытаецца й ствараецца безвыходнасьць — яна зьяўляецца ў палітычнай партыі (партыя церпіць паразы й дэградуе), у сям'і (усе лаюцца і ў выніку яшчэ адзін агмень хатняе цеплыні напаўняецца водарам гарэлкі й плачам дзяцей), у краме (таўкуцца яйкі й пляшкі зь півам праз нейкую дробязь), у дзяржаве (канстытуцыйны крызіс ды раздрай у апазыцыі). Народ лыпае вачыма ды, нічога ня сьцяміўшы, плюе на ўсё й маўчыць — на выбары ня пойдзе й на вуліцы ня выйдзе — «усё адно падмануць».

Замкнёнае кола беларускае рэчаіснасьці... Ці магчыма яго разамкнуць? Рэч толькі ў тым, ці здольныя мы пераадолець сваю нацыянальную крыўду на самых сябе? «Дарагія мае масквічы, уважаімыя растаўчане... хваціт месца вам всем у міня на дзіване, сафе і тапчане», — сьпявае Кася Камоцкая. Гэтым самым яна паказвае стаўленьне беларуса да сябе й чужынцаў. Госьць-чужынец заўжды будзе накормлены ды пакладзены спаць, а вось свайго беларус можа і ў карак пагнаць. Асабіста мне даводзілася сутыкацца з гэткімі праявамі нашага нацыянальнага характару, як гасьціннасьць да чужых і хамства да сваіх. У краме, калі загаварыць папольску, дык дваццаць разоў вакол цябе аббягуць і «дзякуй» скажуць, калі ж па-беларуску (пра «чэлавечаскі язык» сьведама замоўчваю), пасылаюць на...: «Не турбуй мазгі». У гатэлях замаўляюцца месцы для замежнікаў, беларус жа й на вакзале пасьпіць. Такіх прыкладаў можна даць шмат.

Разамкнецца кола, калі беларусы перастануць крыўдаваць на сваіх братоў-беларусаў, а будуць стаяць гарой свой за свайго і сваё.




## БЕЛАРУСКАЯ СЬПЕЎНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

*«Народны Альбом» у Варшаве*

На сцэне варшаўскага «Teatru Małego» 19 траўня рэпрэзэнтаваўся «Народны Альбом». Заля была запоўненая цалкам, музыкаў выклікалі на «біс». Леташнія выступы «альбомаўцаў» на Беласточчыне і ў Пазнані былі названыя сярод пяцідзесяці найважнейшых культурных падзеяў Польшчы.

## ПАМЁР МІХАСЬ БІЧ



*Міхась Восіпавіч Біч ( 27.05.1937–17.05.1999)*

Памёр Міхась Біч... Тыдзень, як ня стала нашага настаўніка, калегі, паплечніка, а звыкнуцца з гэтым, ну, няможна. Па-ранейшаму, ідучы раніцай у інстытут, так хочацца ўбачыць дзьверы ягонага пакою прачыненымі, пачуць таропкія крокі ў калідоры. Але вусьцішная ціша няўмольна цьвердзіць: Міхася Восіпавіча больш няма... Зусім жа нядаўна размаўлялі па колькі разоў на дзень. Абгаворвалі новыя кнігі, плянавалі сваё, абураліся нахабствам ідэолягаў ад гісторыі. Помню, як ён адклаў усё і старанна вычытаў першую карэктуру рэцэнзіі на «зялёную гісторыю» для «Беларускага гістарычнага агляду», прасіў абавязкова даць і другую. А колькі ж хацеў яшчэ зрабіць! Сапраўды ахвяраваўся справе і працаваў надзвычай шмат, не пакідаючы працоўню нават па выходных. Непаўторная ўсьмешка ўсё радзей асьвятляла стомлены твар. Так і згарэў у працы...

Для нашай гістарычнай навукі гэта страта наколькі раптоўная, настолькі й непапраўная. Гэта быў ня проста выдатны вучоны і арганізатар навукі, які аддаў Інстытуту гісторыі трыццаць восем гадоў жыцьця. Беларусь мела ў ім лепшага знаўцу нацыянальна-вызвольнага руху і пасьлядоўнага стваральніка беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі. Ён першы распрацаваў прынцыпы нацыянальнай канцэпцыі гісторыі, публічна выступіў зь імі і адстойваў да апошняга дня. Чалавек высокай маралі і грамадзянскай мужнасьці, ён стаў нашым прызнаным аўтарытэтам. Не хіліўся пад палітычнымі вятрамі і не ўцякаў ад палітыкі, не дагаджаў вярхам дзеля кар'еры і не шукаў карысьці. Стаяў тут за людзкасьць і беларушчыну, што ўважаў тоесным. Ён быў — і мы, маладзейшыя, адчувалі сябе пэўней. Мы ішлі да яго ўсялякае пары, і кожны мог разьлічваць на дапамогу або параду, ці прынамсі на разуменьне і спагаду. А цяпер... быццам асірацелі...

Бывайце ж назаўжды, дарагі Міхась Восіпавіч...

Г.С.

### СЛОВА АЙЦА АНДРЭЯ

# НА СЬВЯТА ЗЫХОДУ СЬВЯТОГА ДУХА

*«Хто верыць у Мяне, у таго, як сказана ў Пісаньні, з чэрава пацякуць рэкі вады жывое». Ян. 7. 38.*

У другім разьдзеле кнігі Дзеяў Сьвятых Апосталаў апісаны дзень Пяцідзясятніцы. Трэба зазначыць, што Пяцідзясятніца — сьвята жніва для юдэяў, стала сьвятам аднаўленьня саюзу-запавету з Богам. Таму зыход Сьвятога Духа на Апосталаў у гэты дзень азначае пачатак дакананьня Новага Запавету ў гісторыі чалавецтва.

Калі вучні, сабраўшыся, былі «аднадушна разам», раптам пачуўся шум зь неба, як бы ад павеву ветру, і напоўніў увесь дом, дзе яны былі. Тады напоўніліся яны Духам Сьвятым «і пачалі гаварыць на розных мовах, як Дух ім даваў вяшчаць». Навокал было мноства людзей — «Парфяне, і Мідзяне, і Еламіты, і жыхары Мэсапатаміі, Юдэі і Кападокіі, Понту і Асіі, Фрыгіі і Памфіліі, Эгіпту і частак Лівіі і прышлыя з Рыму. Усе яны разумелі апосталаў і кожны чуў сваю гаворку. З гэтага няцяжка зрабіць выснову, што ў гэты момант аднавілася адзінства, згубленае пад час будаўніцтва Бабілёнскай вежы ( Быц. 11. 1-9). Ад гэтага моманту ўсе мовы сталіся роўныя і да ўсіх народаў Бог хоча прамаўляць на іхнай мове. Гэта вельмі добра зразумелі сьвятыя браты Апосталы славянаў Кірыла і Мятод, якія прыйшлі да нас, але не прынесьлі нам грэцкай ці лацінскай моваў, а распрацавалі адзіную на той час для славянаў мову, але сёньня мы можам працягнуць справу Кірылы і Мятода і абвяшчаць Слова Божае па-беларуску.

Ёсьць яшчэ адзін аспэкт, які я хацеў бы падкрэсьліць, гэта «аднадушнасьць Апосталаў». Аднадушнасьці вымагае ад нас, сёньняшніх хрысьціянаў, Дух Сьвяты. Мне здаецца, што мы, хрысьціяне розных Цэркваў, павінны больш сьмела супрацоўнічаць у Духу Сьвятым. Гледзячы на сёньняшні стан беларусаў, відавочна, што няважна, да якой Царквы належаць бацькі дзіцёнка, які галадае, праваслаўныя яны, альбо каталікі. Няважна, да якога веравызнаньня належыць жанчына, якая ідзе на аборт. Няважны стан веры бацькоў юнака, які аддасьць усё за дозу наркотыкаў. Зразумела тое, што ўсе яны аднолькава патрабуюць нашай дапамогі. Мы, аб'яднаўшыся ў Духу Сьвятым, можам канкрэтнымі справамі сьведчыць Любоў Божую да гэтых людзей. Канкрэтныя справы, канкрэтная дапамога канкрэтным людзям і ёсьць «жывая вада», пра якую Хрыстос гаворыць у Эвангельлі ад Яна (7. 38.).

**а.Андрэй Абламенка**

## Лені Фішэр:

# «ШКАДА, ШТО Я НЯ ВЕДАЮ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ»

*Працяг са старонкі 1.*

**«НН»: З Чарнобылем і толькі?**

Л.Ф.: Вы маеце на ўвазе, што Чарнобыль ва Ўкраіне? Я мала дзе ў Вас была. Жыцьцё палітыка праходзіць за шклом: машынаў, палацаў, самалётаў.

**«НН»: А беларуская культура?**

Л.Ф.: На жаль, я зусім ня ведаю беларускай культуры, зусім. Адзінае што: мне калісьці прэзэнтавалі кніжачку вашага паэта, Разанава, у перакладзе на нямецкую. Якраз перад паездкай да вас. Езьдзіла мірыць (сьмяецца). Спрабавала перакана́ць абодва бакі зрабіць крокі насустрач. Нічога мне, на жаль, не ўдалося. Ну, я суцяшаю сябе тым, што і расейскім міратворцам гэта не ўдалося, а значыць, што тады гэтага ня змог бы зрабіць ніхто. Палітыку няма калі чытаць увогуле.

Мяне вельмі ўразіла пад час паездкі ў Беларусь, у чарнобыльскія раёны, што людзі, вашы прыстойныя, адкрытыя людзі, ня лічаць багацьця галоўнай мэтай і шчасьцем. У гэтым ваша адрозьненьне ад жыхароў іншай Эўропы. Думаю, у вашай культуры гэта павінна знаходзіць свой адбітак. Я не сустракалася ні з кім з вашых дзеячаў культуры. Адзіныя, з кім я мела спатканьне, гэта з дэлегацыяй жанчынаў, беларускіх хрысьціянскіх дэмакратак, тут аднойчы ў Страсбургу. Перадайце ім маё сардэчнае прывітаньне. Шкада, што я ня ведаю беларускай мовы, каб гэта зрабіць.

**«НН»: Вы былі маленькай дзяўчынкай, калі скончылася другая сусьветная вайна. Яна для Вас нешта азначае цяпер?**

Л.Ф.: Як і для кожнага немца, кожнага хрысьціяніна. Але я скажу і іншае. Цяпер афіцыйная сэрбская прапаганда ўвесь час імкнецца падкрэсьліваць і абуджаць цяжкі, балючы ўспамін пра другую сусьветную вайну. Падкрэсьліваючы мінулую ахвярнасьць свайго народу, яна як бы апраўдвае ягонае права патрабаваць асаблівага стаўленьня да сябе сёньня, права мець выключнае становішча. Гэта прапагандысцкія міты. Толькі зламысныя прапагандысты могуць вышукваць у гісторыі такія факты, каб падаваць сябе ахвярамі, разьвіваць у сваіх народаў пачуцьцё пакрыўджанасьці. Яны шукаюць замежнага ворага.



*«The union with Milošević and Lukašenka is not what Russia deserves».*

**«НН»: Па-Вашаму, Эўропа можа зрабіць нешта, каб супрацьстаяць гэтай прапагандзе?**

Л.Ф.: Ёй немагчыма супрацьстаяць. Гэта нешта, што зьяўляецца час ад часу, а пасьля зьнікае, як шум на сонцы.

Цяпер у нас на Захадзе было шмат спрэчак наконт таго, ці трэ было наносіць удар па сэрбскім тэлецэнтры. Я бачыла сэрбскую прапаганду, я разумею, што гэта такое. Аднак ведаеце, ня ўвесь сэрбскі народ глядзеў гэтую прапаганду. Цяпер ёсьць спадарожнікавае тэлебачаньне. Так што, хто хацеў, глядзеў Мілошавіча, а хто хацеў — не глядзеў.

Міты не разбурыш вось так, бомбавымі ўдарамі. Міты закладзеныя глыбока ў сьвядомасьці людзей. Злыя міты стануць зьнікаць тады, калі людзям захочацца ведаць нашмат больш, чым ім кажа прапаганда.

**«НН»: Сапраўды, можна сказаць, што Заходняя Эўропа і такія краіны, як Беларусь, сёньня жывуць у розным часе: для вас другая сусьветная вайна належыць далёкай гісторыі, у нашай сьвядомасьці яна тут, побач, на кожным кроку. Магчыма, адным з заходаў, здольных зьмяніць такі стан, мог бы стаць больш актыўны дыялёг паміж хрысьціянамі, каталікамі і пратэстантамі Захаду і праваслаўнымі Ўсходу.**

Л.Ф.: Так, але ў такім дыялёгу абавязкова мусяць браць удзел і мусульмане. Чаму вы забываецеся пра мусульман? Яны — неад'емная частка эўрапейскай цывілізацыі, і зь іх удзелам, як і з удзелам жыдоў, выпрацавалася паняцьце эўрапейскай талеранцыі.

**«НН»: Як Рада Эўропы ставіцца да прэзыдэнцкіх выбараў 16 траўня?**

Л.Ф.: Я не магу выступаць ад імя Рады Эўропы, я цяпер усяго толькі ганаровы прэзыдэнт Парляманцкай асамблеі. Асабіста я так скажу: такія падзеі могуць паказаць волю і сьвядомасьць таго грамадзтва, у якім яны адбываюцца. Так як выбары ў Косаве ў свой час засьведчылі волю і сьвядомасьць грамадзтва косаўскага. У той жа час, я лічу, патрэбная вялікая асьцярожнасьць, бо баюся, любы промах можа мець цяжкія наступствы для дасягненьня згоды ў грамадзтве.

**«НН» Па-Вашаму, усе бакі ў беларускім канфлікце хочуць дасягнуць гэтай згоды?**

Л.Ф.: Я не зусім упэўненая. Але нельга адмаўляцца ад ініцыятываў, у прыватнасьці, ініцыятываў Нямеччыны й нашага пасла Горста Вінкельмана. Яны могуць даць плён. У аддаленай пэрспэктыве.

**«НН»: Што б Вы пажадалі дэмакратычным сілам Беларусі?**

Л.Ф.: Вялікіх посьпехаў (сьмяецца). Цярпеньня. Адвагі супрацьстаяць любой прапагандзе.

Прэзыдэнт Лукашэнка — добры аратар, але ў яго няма добрых дарадцаў-прафэсіяналаў, сьмелых дарадцаў, а ня тых лісьліўцаў, што баяцца казаць праўду ў вочы прэзыдэнту, якой бы цяжкай гэтая праўда ні была. Мала быць добрым аратарам. Больш таго, цяжка пісаць прамовы добраму аратару — я шмат гаварыла зь людзьмі зь ягонага атачэньня — ён не зважае на падрыхтаваны тэкст, і імправізацыя заводзіць яго далёка. Цяпер, калі я больш не займаю афіцыйных пасадаў, я магу сказаць шчыра. Я ня ўпэўненая, што Беларусь на добрай дарозе з такім прэзыдэнтам, як Лукашэнка, як і Сэрбія — зь Мілошавічам. Я сустракалася з вашым прэзыдэнтам, а таксама двойчы мела вельмі цяжкія перамовы зь Мілошавічам. Я ведаю, што гэта за людзі. Я гаварыла з расейскімі палітыкамі і сказала ім наўпрост: навошта вам браць на борт Мілошавіча і Лукашэнку? The union with Milošević and Lukašenka is not what Russia deserves. Russia deserves too much more, сказала я ім. Расея заслугоўвае нашмат лепшай долі, чым такі саюз.

**Гутарыў Андрэй Дынько**

---

— Пры напісаньні ў мяне ўвесь час было адчуваньне мініннага поля. Наўрад ці які іншы сюжэт прапануе так багата шанцаў выглядаць ёлупнем. Рок-песьні здаюцца чыстай павярхоўнасьцю, але напраўду зьяўляюцца духоўнай ежай мільёнаў. Натуральна, тэма невераготна прывабная — ад віетнамскай вайны да наркатычнай субкультуры матывы зьліваюцца ў адно. Рок выражае пратэст контракультуры. Раней жаўнераў у вайну падбадзёрвалі гукі маршаў. У Віетнаме ж амэрыканскія жаўнеры ляжалі пад вагнём у джунглях і слухалі «Doors», якія апявалі цнатлівасьць дзяўчат, што таньчаць. Рок дапамог скончыць вайну. Не таму, што казаў «No more war», а таму што неўнікнёна сьвяткаваў жыцьцё. Таму, напрыклад, «Light My Fire» слухаюць і тыя, хто яшчэ й не нарадзіўся, калі Джым Морысан склаў гэтую песьню.



Мне было дзевяць гадоў, калі я ўпершыню пачуў рок. Дзіўна, што ён ня здаўся мне чужы, пры тым што я, дзіцё з індыйскай сям'і, ведаў пра Амэрыку толькі праз коміксы пра Бэтмэна. Нягледзячы на гэта, у мяне было пачуцьцё, што я слухаю сваю музыку. Рок-н-рол быў першай музыкай, што абляцела расы, культуры й кантынэнты. Цэлая плянэта рэагавала падобным чынам. Культурасацыёляг адважыўся б, відаць, на тэзу: з Элвіса пачалася глябалізацыя.

**— Якія CD Вы ўзялі б з сабой на бязьлюдны востраў?**

— «Blond On Blond» Боба Дылана, «Astral Weeks» Кэрал Кінг, «Walk On The Wild Side» Лона Рыда, «Concert In The Park» Пола Саймана і «Motown-Sampler». Нішто ня ўзносіць мяне так, як «Motown». Гэта самая захапляльная й радасная музыка сьвету. Іншых альбомаў мне зусім ня трэ было б, «Sgt. Pepper» групы «Beatles», напрыклад, ці некаторыя раньнія пліткі «Stones». Гэтую музыку я магу прайграць у галаве.

**— Што мусяць мець зоркі, такія, як Джагер і Бона, каб заставацца папулярнымі доўгія гады?**

— Галоўнае, ты мусіш ведаць, хто ты. Апошні сказ, які чуў у сваім жыцьці Дж. Ленан, гучаў так: «Ты знаеш, хто ты?» Пасьля таго, як у яго стралялі, ён ляжаў, сьцякаючы крывёю, у паліцыйным аўто, і паліцыянт зноў і зноў крычаў яму ў твар гэтае пытаньне, каб утрымаць яго ў сьвядомасьці. Ленан адказаў бы. Элвіс, наадварот, не. Ён належаў да «клюбу дурняў» рок-н-ролу разам з самаразбуральнікамі Джэніс Джоплін, Джымам Морысанам, Джымі Гендрыксам і Куртам Кобэйнам.

**— Пра гераіню свайго раману, рок-багіню Віну Апсару вы пішаце: «Яе гатоўнасьць адкрыта размаўляць пра інтымныя рэчы — свае сэксуальныя схільнасьці, свае адхіленьні — была гэтаксама важная, як ейны талент, верагодна, нават важнейшая». Гэта тлумачыць загадкавы эксгібіцыянізм многіх славутасьцяў?**

— Папулярнасьць прынцэсы Даяны вырасла да нябёсаў тады, калі яна пачала выстаўляць напаказ свае раны й крыўды. Калі я пішу, я часта думаю пра грэцкія паданьні аб багах. Гэтыя багі прыцягальныя для нас, бо яны ня кажуць, што лепшыя за нас. Хоць яны магутнейшыя, але гэткія ж пустахвальныя, слабыя й лютыя, як мы. Яны падаюцца нам павялічанымі, перабольшанымі варыянтамі саміх сябе. Адзінае, чаго патрабуюць гэтыя багі, — пакланеньня, багатварэньня. У бязбожныя часы, як сёньня, людзі шукаюць багоў-заменьнікаў. Гэта могуць быць рок-зоркі, супэрмадэлі ці акторы. Знакамітасьці мы ўшаноўваем не насуперак, а з-за іх слабасьцяў. Чым больш паразаў яны спазнаюць, тым мацней мы іх любім. Цяга нейкага музыкі да гераіну ёсьць часткай яго прывабнасьці. Калі нейкая кінадыва паволі старэе, мы атрымліваем уцеху, назіраючы яе нарцысічныя мучэньні. Яе барацьба супраць нечага нагадвае нам нашу барацьбу. І мы прабачаем зоркам іхнае абжорства, як прабачаем і сабе таксама. Яны вызваляюць нас праз свае грахі. Пазнаць сябе ў іншым — адзін з наймацнейшых чалавечых імпульсаў. На гэтым грунтуецца таямніца літаратуры.

**— Чаму ж тады ніводзін пісьменьнік не папулярны так, як поп-зорка?**

— Мы — ахвяры культуры прызнанасьці. Літаратура абяцае, што вы спазнаеце нешта вартае, калі пойдзеце ўсьлед за нейкай выдуманай фігурай, як сапраўднай. Але між людзей пашырыўся агульны недавер да ўяўленага й выдумкі. Замест таго, каб шукаць праўдзівасьці, людзі ахвятней чытаюць «сапраўдныя гісторыі жыцьця». «Анна Карэніна» пакрываецца пылам у шафах, а пакуты прынцэсы Даяны робяцца чытанкай мільёнаў.

**— Дарэчы, на сьмерць гераіні вашага апошняга раману апісанае ў ім грамадзтва рэагуе таксама, як і на сьмерць прынцэсы Даяны. Вы абазначаеце гэта Feedback Loop, малпаваньнем.**

— Труп Даяны стаў найпраўдзівейшым люстэркам нашае культуры. Шчырая людзкая туга па Даяне доўжылася толькі 10 сэк. Пасьля СМІ прадэманстравалі першыя карціны жалобы. Далей ужо людзі рэагавалі не на сьмерць Даяны, а на выгляд людзей у жалобе. Вельмі хутка праўдзівая жалоба прайшла, і людзі йгралі ролю жалобных. Я глядзеў на натоўп вакол Кенсынгтонскага палацу. Колькасьць тых, хто сапраўды тужыў, усё меншала. Замест таго прыходзіла ўсё больш гледачоў, што хацелі пабачыць тых, што тужаць. Гэта агульная тэндэнцыя. Мы рэагуем ужо больш не на сапраўдную падзею, а на рэха, якое гэтая падзея выклікала ў СМІ. Мы хочам стаць часткай таго, што бачым у ТБ. Гэта я й называю Feedback Loop.

**— Поп-музыка й кіно супольна выцясьняюць літаратуру, прынамсі па лічбах продажу. Гэта робіць Вас пэсымістам?**

— Некалі пачнецца бунт супраць усё большай трывіялізацыі нашай культуры. На кніжным рынку гэта ўжо адзначаецца. У сьпісах бэстсэлераў мы знаходзім апошнім часам сапраўды добрыя кніжкі. Вершы Тэда Г'юза былі на першым месцы ў Брытаніі, прадаліся накладам у некалькі соцень тысяч асобнікаў. За акіянам тым часам сур'ёзныя аўтары, Тоні Морысан, Чарльз Фрэйзьер і Дон Дэліла, маюць агромністую публіку. Мне гэта нагадвае ЗША сярэдзіны 70-х. Тады такія амбітныя аўтары, як Сол Бэлоў, Джозэф Гелер, Філіп Рот належалі да найбольш прадавальных. Але ад канца 70-х дзесяць гадоў у літаратуры панавала лухцень. Выгляд, форма засланілі сутнасьць, а позу паблыталі са стылем. Цяпер, падаецца, чытачы насыціліся сьмецьцем. Яны хочуць, каб іх мазгі ўрэшце зноў атрымалі спажыву.

**Падрыхтаваў Сяргей Богдан, Маладэчна**

# ВЫХАД У ГОРАД

Неяк адзін мой даўні прыяцель, — чыстакроўны беларус, плюс носьбіт шыкоўнага шляхецкага прозьвішча, плюс уладальнік радавога дому на Жлобіншчыне ды яшчэ, можна сказаць, мой першы настаўнік беларускай мовы — прычапіўся да маёй нетутэйшасьці. «Вось уяві сабе, — казаў ён, — што твае бацькі засталіся ў свой час у Казахстане. Ці замест Беларусі завезьлі цябе, небараку, у які-небудзь Ханты-Мансійск. Гэта ж якога казахскага дзеяча згубіла б Алма-Ата. А ўжо ханты-мансійская мова безь цябе, пэўна, увогуле даўно б загнулася. А яшчэ цікавей — не супакойваўся беларускі шляхціц — закінуць цябе ў які вясёлы трыццаць трэці ды паглядзець, якім бы ты там адраджэньнем займаўся».

Гэты маналёг я ўзгадаў пад час апошняй вандроўкі ў Гомель на прэзэнтацыю часопісу «Arche». «Arche» мелася гаварыць, а «Наша Ніва» — сьпяваць. Я ўпершыню ехаў у гэты горад госьцем, якому месца толькі ў гатэлі. Новы літаратурны часопіс ляжаў у кайстры. Насупраць мяне сядзелі ягоныя галоўны рэдактар і адказны сакратар. Паміж намі — пляшка джыну «Ведрыч». Да Мар'інай Горкі размова ішла даволі сумна — Пазьняк, хакей, замежжа. Але па меры перамяшчэньня цудоўнага рэчыцкага напою ў нашыя артэрыі, тэмы станавіліся больш узьнёслымі — літаратурны працэс, айчынная клясыка, творца й час. За Бабруйскам стала ясна, што працяг літаратурнай гутаркі патрабуе новага паліва. Я пайшоў у буфэт. «Гарэлку, калі ласка». «Калі ласкі» няма. Толькі «Сталічная». «О! Гэты тонкі гомельскі гумар!»

Па выхадзе ў родны горад мяне разьвезла. Паўднёвае буяньне каштанаў на вуліцах, водар дажджу і хмель у галаве зьмянілі мой погляд на знаёмыя мясьціны. Я пачаў удаваць зь сябе прызнанага генія, п'янага ад шчасьця сустрэчы з родным кутком, якому ўсё дазволена. Гучна й шмат мацюкацца, пры сустрэчы са знаёмымі лабызаць іх так, быццам з моманту расстаньня прайшло немаведама колькі часу. Цягнула на ўспаміны.

Па абедзе я вырашыў пашпацыраваць пад цёплым дажджом, які не сьціхае ўвесь дзень. Некалі, на пачатку 92-га году, я абыйшоў у гэтым раёне кожную кватэру. Мы хадзілі тады зь вялікай місіяй збору подпісаў за роспуск Вярхоўнага Савету БССР.

Мы вельмі любілі тады паразважаць пра нашу хуткую ды лёгкую перамогу, калі мы будзем езьдзіць на вольвах ды размаўляць на роднай мове. Цікава — колькі нас тады, «каўбоеў», было? Маладых людзей, розных па крыві, амбітнасьці, мэтах, але якім абрыдла жыць па-савецку? Калі лічыць па тагачасных накладах «Крыніцы», дык недзе пад паўмільёна. Але калі меркаваць па тых, хто хадзіў ды зьбіраў тыя подпісы, дык пара тысячаў. Менавіта пад час тых хаджэньняў я ўпершыню ў жыцьці загаварыў па-беларуску. Памятаю нават свае першыя словы: «Добры вечар. Мы з БНФ. Вы, безумоўна, ведаеце, што ў Беларусі надыходзяць новыя часы. Расьпішыцеся, калі ласка». Пасланцоў новае эпохі тады сустракалі не бяз радасьці. Прынамсі, фашысцкім малодчыкам мяне абазвалі толькі двойчы.

Што было пасьля, добра вядома. Вяртаньне краіны ў свой часавы пояс. І гэта для мяне па сёньня вялікая загадка. Я ж выдатна памятаю, зь якой надзеяй нас сустракалі людзі... Кепскія, значыцца, атрымаліся з нас агітатары. Дарэчы — амаль усе мае колішнія піянэры палітычнага Кландайку героямі свайго часу так і ня сталі. Хто падаўся на эміграцыю, каго заеў нішчымны быт, хто шчыруе ў дзяржструктурах.

Па дарозе на імпрэзу я ня здолеў абысьці сваёй увагаю маладую бляндынку, што пацелвалася пад дажджом у чаканьні тралейбуса. Нібы ў нейкім заўтрашнім сцэнары яна вясёла адказвала на мае заляцаньні з той лёгкасьцю, зь якою беларуская мова зьлівацца з паветрам. Перастаючы быць этыкеткай. Пані сьпяшалася на цягнік у Рэчыцу, дзе яна зьяўляецца актывісткаю БПСМ.

Адшукаўшыся ўспамінам, на прэзэнтацыю я крыху спазьніўся. У невялікай выставачнай залі мясцовага ўнівэрсытэту з таннымі рэпрадукцыямі Рэрыха па сьценах сабралося крыху пад сотню маладых людзей. Хвілінаў пяць я з асалодаю назіраў за іхнімі жывымі тварамі, большая частка зь якіх мне была невядомая. Прысутных вельмі цікавіла тое, што распавядаюць мае спадарожнікі. Ломка прэзумпцыі нецікавасьці беларускага, разьвейваньне імпэрскага міту Вялікай Айчыннай вайны ды іншыя цікавосткі праекту зь незразумелай грэцкай назваю «Arche». Некаторыя з прысутных прагна штудыявалі старонкі, не зважаючы на прамоўцаў. Гледзячы на іх, я яшчэ раз пераканаўся, што беларускі час і не спыняўся ніколі. І калі б мне сёньня які чараўнік прапанаваў памяняць мой час, я б адмовіўся. Бо менавіта гэты час — мой, беларускі. І тое, што гадоў пяць таму здавалася амаль немагчымым — ну, напрыклад, пазнаёміцца на вуліцы з упадабанай дзяўчынай без дапамогі «вялікага й магучага», ці пачуць мову Купалы з вуснаў мянта — сёньня для мяне такая ж будзённая рэч, як дэфіцыт нармальнай сьмятаны.

Гомельскі дзень скончыўся ў цудоўнай кампаніі, у рэстарацыі. Цэнтравы кабак абласнога цэнтру толькі распачынаў сваё жыцьцё. Цыгарэтны дым яшчэ не пасьпеў ператварыцца ў сіні туман, пра які ляніва сьпявалі музыкі, яшчэ можна было адшукаць столік з чыстым абрусам. Пакуль на нашым стале вымалёўваўся цудоўны натюрморт з гарэлкаю ды чырвонаю ікрой, я не безь цікавасьці пачаў разглядаць публіку.

Тыповы набор пэрсанажаў часопісу «Вожык» за 73 год. Кнырападобныя заўмагі-кавалеры падлівалі водачку сваім багатагрудым мадамам, таксама якім-небудзь тавараznаўцам. Каб пасьля, натрэскаўшыся эскалёпаў, трэсьці потнымі целясамі пад завываньні чырванамордага, валасатага саліста, які відавочна забыўся надзець клёшы й чырвоную кашулю. Гэта ў іх называецца — весела правадзіць урэмя... Не разумею — як іх дасюль ня выверне ад гэтага вясельля, якое за дваццаць пяць гадоў не зьмяніла ані мэню страваў, ані інтэр'еру сьцены, хіба толькі крыху абнавіўшы рэпэртуар ВІА.

Праз пару столікаў ад сябе я заўважыў свайго шляхціца. Той імкліва набіраўся гарэлкаю. Бурны час, за які мы не пабачыліся ні разу, крута праехаўся па колішнім рамантыку надыходзячай эпохі нацыяналізму. Некалі выцягнуты інтэлігенцкі твар нездарова пакруглеў. Заўжды прамая сьпіна згорблася. У колішнім насьмешліва-скептычным позірку запанавала разгубленасьць і зашуганасьць. Можна было й не запытвацца пра сёньняшняе жыцьцё. Ён ужо наўрад ці зачытваецца «Нашай Нівай» й заслухваецца «Новым Небам».



Я глядзеў на свайго былога сябра й ніяк ня мог пазбавіцца нейкага дурнога пачуцьця сораму. У ягоных вачах, я, напэўна, выглядаў лашчоным эмігрантам з пошлаю запальнічкай «Зіпо». Мы стрымана, аднымі вачыма павіталіся. Размовы б усё адно ня выйшла. Беларускую мову я засвоіў зь іншымі настаўнікамі.

Дачакаўшыся нарэшце, калі чырвонатвары саліст скончыў крычаць пра «чужую мілую» і аб'явіў перапынак, мая любімая бардэса, што сядзела побач, расчахліла гітару.

Усё ж, што ні кажы, мне сапраўды пашанцавала з часам. Калі можна на ўвесь голас засьпяваць напісаную на ўсе часы «Запяі мне песьню». Калі з кожным новым куплетам гоман кабака будзе заціхаць, каб заціхнуць увогуле. Мы дапявалі адно пад шум дажджу за вокнамі. Нам пляскалі. Мой прыяцель сышоў. Дапальваючы апошнюю цыгарэту, я лішні раз пераконваўся — усё, што будзе сьведчыць пра гэты час у наступныя, напэўна, больш сытыя й цывілізаваныя часіны, будзе толькі беларускім. Зрэшты, сам гэты прыметнік непрыкметна й паступова ўжо сёньня становіцца сынонімам слова «сучасны». Сучасны пісьменьнік, сучасны часопіс, сучасная мова. Адстаць ад гэтага часу можна. Можна яго й не заўважаць. Нашмат больш цяжка і ўдзячна — жыць у ім. У сваім часе. Няўжо гэта так цяжка зразумець? Ці для хутчэйшага ўразуменьня сапраўды патрэбны трыццаць трэці? Зрэшты, хай скончыцца дзевяноста дзявяты.

Пара было на вакзал...

**Зьміцер Бартосік**

## Славамір Адамовіч

# БЫТАВУХА-4

**Сны**

I.

Зьвярзлося, што зуб у мяне з роту вываліўся. Я на стол пісьмовы паклаў яго, шкадую і дзіўлюся, чаму гэта болю няма.

А тлумачэньне сну простае — заснуў я з мэнтолавым цукеркам на языку.

II.

Сьніцца, халера, што вяду я ўзвод дзяўчат-сямнаццатак. Яны ў мяне ўсе ў чорным, падцягнутыя, з-пад бэрэтаў пшанічка валасоў выбіваецца, а на чырвоным полі нарукаўных павязак наставіла рожкі васьмікутная палеская зорка.

III.

Прысьніўся Паўлоўскі. Дэталяў ня памятаю, але знак гэта добры, што сьніцца нармальны чалавек.

**Гешэфты**

Літаратар Парахневіч прынёс у «Чырвоную зьмену» стос вершаў. А літаратар Песьнякевіч не сьпяшаецца іх друкаваць. Тады Парахневіч прыносіць бутэльку алкаголю. Песьнякевіч, вядома, усьцешаны, але друкаваць усё роўна не друкуе. Наступны раз Парахневіч ізноў прыходзіць з пляшкай. Так наладжваюцца ўзаеміны паміж пакаленьнямі.

**Госьць**

Анатоль Сыс аднойчы зайшоў з маладзёнам гадоў трыццаці. Не скажу, каб я быў надта ім рады, але ж у пакойчык свой упусьціў. Маладзён з парогу зарасеіў, што *почему вы нас ненавидите?* Тады наш Паэт прачытаў пра «у расейцаў вочы касыя» і пра «стаю на асфальце, у лыжы абуты...». Але маладзён ніяк не хацеў разумець, *чаму мы іх ненавідзім.*

Вырашылі зьмяніць тэму — загаварылі пра паэзію. Анатолеў спадарожнік, выпускнік маскоўскага інстытуту літаратуры, прачытаў па-расейску некалькі ўласных тэкстаў. І такая густая «духоўнасьць» зь іх папльпла, што закарцела кульнуць сабе ў вантробы грамаў сто вадкага антысэптыку.

Адстраляўшыся буйнакалібравымі словамі *бог, отечество, Христос, мир* ды іншымі падобнымі, маладзён паспрабаваў скіраваць нас на тэму Югаславіі і славянскага яднаньня. Калі ж я спытаў, якога ты, чалавек, бога, дзе, як той казаў, радзіўся і хрысьціўся, госьць пачаў разводзіць дэмагагічнае сусла пра тое, што ён, маўляў, проста чалавек. Такі адказ не прайшоў, і ў выніку нашых з Анатолем інтэлектуальна-патрыятычных атак маладзён расказаў, што нарадзіўся ён дзесьці ў падбрушшы Расейскай Фэдэрацыі, у Беларусь пераехаў ужо юнаком, пра «Нашу Ніву» ня чуў, з таварышамі па літцэху асабліва не кантактуе, а жыве на Трактарным, разам з бацькам — беларускім пісьменьнікам S.

**Пах язьміну**

Пасьля выбараў 16 траўня тэмпэратура паветра падымалася. Пацяплела, халады адпусьціліся. Два тыдні мой таварыш змагаўся з Acarus siro, пэцкаючы паясьніцу Benzylbenzoat'ам, але ўсё роўна сьвярбела. Са злосьці сеў пісаць паэму «Убей президента-2», але на раніцу, як толькі сьціх сьверб, прапала і натхненьне.

Вырашаючы праблему зборнай групы членістаногіх атраду акарыформных, купіў яшчэ 30 грамаў дваццаціпрацэнтнай мазі і, папярэдне вымыўшы сваё 37-гадовае цела, нацёр яго выратавальным рэчывам. Потым апрануў сьвежую бялізну, зялёны касьцюмчык і выйшаў у горад. Пайду, думаю, у Саюз пісьменьнікаў, пацікаўлюся, як ідзе прыём Адамовіча ў гэту шаноўную арганізацыю, у якую ён спрабуе ўбіцца з 1990 году. Бадай што, ён і тут усе рэкорды пабіў, а першая рэкамэндацыя, дадзеная колішнім дэканам філфаку А.Лойкам, даўно страціла вартасьць актуальнага дакумэнту і прасіцца ў сэйфы Архіву Найноўшай Гісторыі.

Вяртаючыся з гораду, затрымаўся на вахце, каб пазваніць сяму-таму. Вахцёрка Марыя засьвяцілася добрым настроем, прынюхалася і заўважыла, што ад мяне моцна пахне язьмінам. Так моцна, што аж да галавакруту.

— Гэта вясна, — адказаў я, — цяпло, і ў прыватным сэктары забушавалі сады.

**Сінанімія**

Прыбіральня — надзвычай актуальная ўстанова. Таму і назваў мае ў запасе: сарцір, туалет, дабл, ачко, WC, параша, убoрная, клязэт...

Халоднымі зімамі сямідзясятых наша сям'я хадзіла на вядро ў сенцах, а то й на газэту — бацька быў паштальёнам. Таму, калі ты скажаш, што хочаш у сенцы, я цябе зразумею, зямляк. Сьвятая справа — справіць патрэбу, асабліва, калі над душой не стаіць вертухай.

**Сіла**

Цябе ж папярэджвалі, а ты злаваўся. Ты казаў сувязному, што не баісься, што ў падпольле не пойдзеш і хавацца ня будзеш, хоць папярэджвайце, хоць затрымлівайце, хоць закрывайце ў камэру, а хоць бы й парашыце на месцы.

І другі раз казалі табе: не хадзі ў Рэдакцыю дваццаць трэцяга з паўдня — будуць пільнаваць. Ты, што праўда, прыслухаўся да парады, але датрымаць паўзу ня змог. Ледзь толькі пераваліла на восьмую вечара — папхнула цябе сіла невядомая

# КАЗКІ ЖЫЦЬЦЯ

## DIE MODERNEN SAGEN

**Порнакарткі з Капэнгагену**



На сустрэчы выпускнікоў тэхнікуму гатэльнага бізнэсу ў Тагерзэе, у Нямеччыне адзін з колішніх спакурсьнікаў распавёў такую гісторыю: кумпанія зь дзесяцёх жанок, між якіх была й ягоная кабета, выправілася неяк на выходныя ў Капэнгаген. Тамака ўвечары яны наведалі якуюсь кавярню, дзе іх не абмінулі ўвагай некалькі мужчынаў, прапанаваўшы разам выпіць. Наступнай раніцай жанкі прачнуліся ў гатэлі, але ў іншых нумарах, чым мусілі б. Яны зьдзівіліся, аднак больш нічоганькі ня здолелі згадаць. Затым што нічога надалей ня здарылася, а з рэчаў нічога не прапала, жанкі паехалі дадому і забыліся на адбытае. Колькі ж тыдняў апасьля адзін з мужоў угледзеў сваю жоначку ў недвухсэнсоўнай паставе на бачынах даццкага порначасопісу. За далейшымі росшукамі высьветлілася, што ёсьць таксама порнакарткі й пазасталых жанок. Відавочна, што тым вечарам у Капэнгагене кабетам нештачкі падсыпалі ў піва, каб тыя не змаглі нічога прыгадаць.

У Беларусі я чуў падобную балачку ў першай палове 90-х. У тым варыянце фігуравалі расейскія турысткі, што выехалі адпачыць у Латвію.

**Небясьпечная Coca-Cola**

Адзін навуковец хацеў давесьці небясьпечнасьць кока-колы. Для гэтага ён пакінуў на ноч у вядры з гэтым напоем здохлага пацука. Наступным раньнем ад жывёлы засталося адно толькі пара шматкоў скуры, косткі і крыху хваста. Рэшта была зьнішчана кісладзямі колы. Гэта распавёў мне адзін 15-гадовы вучань на школьнай урачыстасьці ўлетку.

Між некаторых іншых беларусаў існуе яшчэ перакананьне, што Coca-Cola мае пах клапоў, дзеля чаго яны асьцерагаюцца ўжываць гэтае піва.

**E-mail**

Адна сужэнская пара зь нямецкага гарадка Нортгайму дужа злавала на п'янтосаў, якія, пакідаючы блізулеглую піўніцу, ці не штовечар цурбоілі ў іхную паштовую скрыню. Як што ні муж, ні жонка ніводнага разу не змаглі застаць зламысьніка, яны вырашылі паказаць тому, дзе горкі перац расьце. Праз паштовую скрыню быў праведзены дрот, падлучаны да электрыкі. Вось жа акурат у першую ноч сужэнцы падхапіліся ад жудаснага лямanту, але так нічога й ня згледзілі. Той ночай паштовая скрыня была мокрай у апошні раз.

Пададзена з расповеду 24-гадовай студэнткі, жонкі таго мужчыны, што наладзіў электрычную пастку.

**Сардэчна запрашаем у AIDS-клюб!**

Калі ў нас неяк пайшлося пра AIDS, мой сябар, які акурат тады вярнуўся з адпачынку на Канарах, распавёў мне такую гісторыю: адзін знаёмец, што жыў на выспах, паведаміў яму, як нейкі малады гішпанец з Санта-Крус пазнаёміўся на курорце Пуэрта дэ ля Крус з адной турыстачкай, прабавіўшы зь ёю ноч. Назаўтрае, калі гішпанец прачнуўся ў зьнятым наконадні нумары, яе ўжо й сьлед прастыў. Пайшоўшы ў лазьніцу, каб узяць душ, ён прачытаў выведзены памадай на люстэрку сказ: «Сардэчна запрашаем у AIDS-клюб!» Праз два месяцы хлопец зрабіў тэст на AIDS, які даў станоўчы вынік.

Гэтая сучасная сага вядомая ў многіх краінах сьвету. У Беларусі бытуе прыблізна з канца 80-х, маючы размаітыя варыянты.

**Сяргей Балахонаў**

СЛОЎНІК ПАНЯЦЬЦЯЎ

## 6. ПАЛІТЫЧНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ ЯК ФОРМА КАЛЕКТЫЎНАГА ТРЫЗЬНЕНЬНЯ БЕЛАРУСАЎ.



Наша грамадзтва сур'ёзна хворае — вось ужо дзесяць апошніх гадоў заўзята сыцьвярджаюць сур'ёзныя беларускія журналісты і палітолягі. І, каб іх сыцьвярджэньне не было галаслоўным, прыводзяць шматлікія бясспрэчныя факты і выкладкі, а каб своечасова прадухіліць пераход сацыяльных хваробаў у сацыяльныя паталёгіі, прапануюць праверaныя часам рэцэпты, што валодаюць вялікай гаючай сілай. Лепшыя народныя пісьменьнікі на лёце падхопліваюць гэтую простую і прывабную думку, дадумваючы яе да лягічнага канца: наш народ на краі згубы, ён штохвіліны можа ўваліцца ў бездань нацыянальнага вырачэньня.

Задамося пытаньнем, які стан навязьліва перасьледуе хворага перад сконам — так, правільна, гэта стан трызьненьня.

Гучныя выкрываньні і шумныя скандалы, неспадзяваныя пераходы з адной мовы на іншую, добра сплянаваныя ўцёкі ў трэцюю краіну праз другую і закулісная валтузьня, гонкі на «Мэрсэдэсах» і таямнічыя зьнікненьні людзей, засады і перастрэлкі на дарогах, павальныя хапуны і арышты, асаблівая асьцярожнасьць і сакрэтнасьць, масавыя правакацыі з боку ўладаў і фатальныя памылкі апазыцыі, вывешваньне нацыянальных сьцягоў на комінах і раскідваньне ўлётак па галоўных магістралях сталіцы, выключэньне з ВНУ і звальненьне з працы, спроба наладзіць альтэрнатыўную сетку радыёвяшчаньня і пошукі альтэрнатыўных крыніцаў фінансаваньня, катаваньні і галадоўкі, самаспаленьні і нявінныя ахвяры, кроў маладых і сьлёзы адчаю старых, інфармацыйныя войны і лякальныя перамогі, разгон маніфэстацыяў і абвостранае пачуцьцё нацыянальнай годнасьці, маўклівыя здрады і нечаканыя азарэньні, капітуляцыя прадажнікаў і зацятасьць падзьвіжнікаў, непадкупнасьць і сьвятасьць сапраўдных правадыроў і апатыя масаў, вымушаная эміграцыя і адданасьць радзіме — з хуткасьцю ветру праносяцца перада мной падзеі, пераважна пазбаўленыя прычынна-выніковай сувязі, матываваныя хваравітымі амбіцыямі і афэктамі. Іх ініцыятары і выканаўцы дзейнічаюць хапатліва, сутаргава, похапкам — бо часу засталося няшмат, і да таго ж адсутнічае прастора для манэўру — каведны працінік ужо перарэзаў асноўныя жыццёва важныя камунікацыі. Іх твары папераменна выражаюць рашучасьць і разгубленасьць. Яны гатовыя на ўсё, робяць стаўку на жалезную дысцыпліну і напружана, нахмурыўшы бровы, чакаюць таго моманту, калі будуць запатрабаваныя.

Варта было адно расплюшчыць вочы, і ўсё гэта зьнікла, як смуга ў першы веснавы дзень, бо ўсё па-ранейшаму заставалася на сваіх мясцох. Магчыма, гэта толькі гульня майго ўяўленьня?

Беларуская палітыка выяўляе калектыўнае падсьвядомае нашага грамадзтва. Зусім інакш справа стаіць зь беларускай літаратурай. У ёй збольшага дагэтуль пануе цішыня і спакой, унутраная раўнавага — Маша заварвала каву, а Міша ў гэты час разліваў шампанскае, праз гадзіну Маша прасавала штаны, а Міша зьбіраўся на рыбалку. Але падобная злагада ўяўная, гэта, на добры лад, ня што іншае як спроба наўмысна ўнікнуць сапраўднасьці зь яе ірацыянальнымі страхамі, амаральнымі ўчынкамі і навязьлівымі ідэямі, хаатычнымі рухамі і экзыстэнцыйнымі непакоямі, штодзённымі канвульсіямі, слабасьцямі і расчараваньнямі, гэта sui generis валтузьня ў беспаветранай прасторы, бясконца далёкай ад жывой плоці жыцьця.

Ну, а пакуль беларускі раман пішуць палітыкі.

**Валерка Булгакаў**

пад кулакі чакальнікаў. І бачыў жа, што стаяць два каля вакна. І чуў, як адзін у другога спытаў: «Этот?» А ты ішоў, бышцам цябе гэта зусім не абыходзіла. І толькі ўдар у пераносіцу ды кроў фантанам на імгненьне затрымалі тваю хаду. Заліваючы сябе чырвоным, ты выхапіў з-пад курткі свой дробнакалібравы і зрабіў, што трэба.

Пракурор ня стаў узбуджаць крымінальную справу, жыхароў пад'езду папрасілі не фантазіяваць, а трупы, як не запатрабаваныя роднымі, адправілі ў крэматорый Заходняга кварталу.

**Перапіска**

На мой запыт старэйшаму сьледчаму Мядзельскага райаддзелу міліцыі грамадзянцы Чамко я атрымаў афіцыйны адказ (дакумэнт № А—3 ад 4.05.1999 г.) : «На вашу заяву паведамляю, што дадзеныя папярэдняга расьследаваньня ў адпаведнасьці з арт. 141 КПК Беларусі ня могуць быць раскрытыя. Таму ніякіх зьвестак па факце допыту мною грамадзянкі Чантарыцкай Ю.П. вы атрымаць ня можаце. Ст. сьледчы Мядзельскага РАУС падпалкоўнік міліцыі Чамко».

Тое, што работнік сілавой структуры палічыў патрэбным адказаць на грамадзянскі запыт — надрэнны знак. З такіх узаемінаў і пачынаецца шлях да рэальнага двоеўладзьдзя.

**Героі і шаптуны**

Што, ты думаеш, я пачуў у Менску пасьля красавіцкага выступленьня гарадзенскай моладзі? Думаеш, я пачуў словы ўдзячнасьці, гонару, захапленьня маладымі людзьмі, якія зь бел-чырвонабелымі сьцягамі ў руках прадэманстравалі волю беларусаў да барацьбы за незалежнасьць? Не, я пачуў любімае слова худасракіх палітінтрыганчыкаў — правакацыя. Аказвасцца, беларускія хлопцы запалілі паходні *ня там* і *ня ў час*. Аказвасцца, іхны тасмны кіраўнік спэцыяльна падставіў сваіх юнакоў пад дубінкі і аўтаматныя прыклады. Аказвасцца, *ня той чалавек* іх вывеў на вуліцу Савецкую ў Горадні. Вось якія шэпты і па сёньня я чую ў кулуарах партыйных штабоў. Гэткія шэпты чуліся і ў 1994. Тады праварадыкальная група «Правы Рэванш» пасьпяхова правяла першае ў Менску шэсьце з паходнямі, прымеркаваўшы яго да Дня незалежнасьці 27 ліпеня.

У тым жа годзе ў Віцебску прайшоў Першы зьезд беларускіх нацыяналістаў. Мастак Алесь Пушкін прапанаваў пад акцыю сваю прыватную мастацкую галерэю, якую потым улады зачынілі. І тады папаўзьлі чуткі нашых шаптуноў, што арганізатар Зьезду правёў яго якраз з мэтай ліквідацыі галерэі.

Дык як жа мы назавем таго, хто нашэптвае пад руку Нацыянальнай Рэвалюцыі?

**Пра маральнасьць**

У нас тут некаторыя перабытталі Палітыку з Царквой. Ужо дзесяць гадоў яны палітыкуюць «чыстымі рукамі» — толькі вось да ўлады прыйсьці ніяк ня могуць.

Між тым, усё даволі проста: маральна тое, што вядзе да ўлады *і не раздражняе масы*. Маральны той палітык, які жадае ўлады настолькі, што *бярэ яе, не адкладваючы на потым*.

Што амаральна?

Амаральна ўдаваць зь сябе палітычную цэлку, калі даўно пара нарадзіць плод. Амаральна кожную новую паразу называць нашай маральнай перамогай.

**Выбары**

I

16 мая 1999 году, вуліца Голубева, каля аднаго з дамоў — стары аўтобус, абстаўляваны пад выбарчы ўчастак. На лёзунг «16 мая — выбары Прэзыдэнта Беларусі» сьцякаюцца людзі, заходзяць у салён, галасуюць. Зайшоў мужчына гадоў пяцідзесяці з пашпартам, як ён сказаў, сваёй цешчы, спадарыні Марыі 1892 году нараджэньня. Зяць кажа, што хоча засьведчыць волю гэтай 107-гадовай беларускай жанчыны родам зь вёскі Рудакі Віцебскай вобласьці, якая цьвёрда наказала зяцю прагаласаваць ад яе імя за... Пазьняка.

Упершыню такі выбар пакінуў на душы непрыемны асадак. І гэта яшчэ вельмі мякка сказана, калі мець на ўвазе мой характар і тэмпэрамэнт.

II

Сябры ўчастковай выбарчай камісіі ходзяць з урнай па кватэрах аднаго з дамоў на вуліцы Румянцава ў Менску. Я падстрахоўваю іх на выпадак міліцэйскага налёту. І сапраўды, неўзабаве ў двор заязджае аўто з чатырма антэнамі на страсе. «Гэта яны», — кажа знаёмы журналіст. Ён застаецца на двары, я заходжу ў пад'езд і хаваю сяброў камісіі з урнай у кватэры, дзе перад тым тры вясёлыя хлапцы з ахвотаю выканалі свой грамадзянскі абавязак.

Група зусім маладых супрацоўнікаў крымінальнай міліцыі застаецца ні з чым. А вось журналісты задаволеныя: ім будзе пра што напісаць.

III

Патэлефанавалі са сталічнага мікрараёну Шабаны, паведамілі адрас, папрасілі зайсьці з урнай.

Прыехалі, дзьверы адчыняе міліцыянт у форме, прыкоўвае аднаго зь сяброў участковай камісіі да клямкі і вяртаецца да тэлефону. Але ён забыўся пра скрыню зь бюлетэнямі, якую мы і хаваем у гаспадароў суседняй кватэры. Інцыдэнт вычарпаны.

***

Першы этап выбараў новага беларускага прэзыдэнта завяршыўся, высьвеціўшы галоўнае — людзі жадаюць пераменаў. На жаль, сам я так і не прагаласаваў — мой кандыдат сышоў з дыстанцыі.

*Красавік — май 1999 году*

# ГРУНВАЛЬД, ЯКІ НЯ СТАЎ

*Працяг са старонкі 1.*

**Памятаю, некалі мне давялося рабіць крытычны разгляд кніжак маладых беларускіх вэрсыфікатараў. Адна з агульных рысаў там была — панічны страх перад гісторыяй, як перад чымсьці бяздонным і чорным. Згадваю такія радкі:**

***Сьвет пакаціўся б, нібы кола, у бездань пракаветных дзён.***

**Або:**

***І наш Багушэвіч, Купала, зь цемры вякоў ішлі.***

**І яшчэ:**

***З бакоў чатырох, спрутам зла — гісторыя.***

**Ня думаю, што такая паталягічная вусьціш вынікае толькі зь нядатнасьці вэрсыфікатараў і ніякім чынам не ўласьцівая нашай шырокай публіцы. Хутчэй наадварот — гэта крык душы чалавека і народа, які не нясе адказнасьці за свой лёс. Свая гісторыя ў нас доўгі час замоўчвалася або малявалася ў змрочных фарбах усемагчымых прыгнётаў і паняверак. Невядомае — палохала...**

**Між іншым, пра месца гісторыі ў цяперашнім беларускім жыцьці думалася нядаўна ў Віленскім арсэнале, куды на некалькі месяцаў прывезьлі з Польшчы знакаміты «Грунвальд» Яна Матэйкі. Вялізнае палатно ў 50 квадратных мэтраў, дзе выяўленыя ў запале барацьбы 50 рэальных гістарычных пэрсанажаў славутае бітвы 15 ліпеня 1410 году. На сёньняшні момант у Вільні гэтую карціну наведалі 50 тысячаў чалавек — сапраўднае паломніцтва. Зразумела, і нам у «Нашай Ніве» абмінуць гэтую падзею не выпадала.**

**Сяргей Харэўскі згадаў, што беларускія гісторыкі напісалі пра Грунвальдзкую бітву тузін кніг, але ад гэтага нашчадкі слынных ваяроў не прасякнуліся гонарам за айчынную мінуўшчыну. І да шырокага сьвету нашыя «сьветлыя прэтэнзіі» не дакаціліся. Экскурсаводы каля віленскай экспазыцыі распавядаюць, што гэта была літоўска-польская перамога. Тое самае — у польскіх даведніках. Тое самае — у энцыкляпэдыі «Брытаніка», дзе пад словам «літоўскі» разумеюць не «прыналежны да Вялікага Княства», а цяперашні сэнс, бо Вітаўта называюць Вітаўтасам.**

**Выглядае, што за апошнія дзесяць гадоў мы так і не «зьявіліся на Грунвальдзе»? У чым прычына? Ці гэта гісторыкі кепска пішуць, ці за мяжу ня езьдзяць, ці прапагандаваць сваё ня ўмеюць?**

**Сёньня на гэтыя пытаньні ў «НН» адказвае Генадзь Сагановіч.**

**Зьмітра Бартосіка Матэйкаў «Грунвальд» ня ўразіў. Магчыма, гэта тыповая для цяперашняга беларуса рэакцыя на славутую карціну. Што да літоўцаў, дык паводле статыстычнага апытаньня толькі 14 працэнтаў наведнікаў выставы чакалі ад яе чагосьці іншага. Астатнія атрымалі сваё ў поўнай меры, г.зн. былі сапраўды ўражаныя.**

**Верагодна, што сёньняшняе наведваньне культавага твору можа ўразіць беларуса некалі пасьля, на што і спадзяецца Зьміцер Бартосік. Праўда, можна ў гэтым угледзець і пэўныя ўцёкі. Мы ўвогуле шмат чаго ў сваім нацыянальным бытнаваньні адкладаем на пасьля. Хоць гутарка ідзе ня больш чым пра даніну пашаны ўласнай мінуўшчыне.**

**Сяргей Паўлоўскі**

50 студэнтаў гістарычных факультэтаў БДУ і Пэдагагічнага ўнівэрсытэту адказалі на адно пытаньне — у якім зь вядомых ім гістарычных пэрыядаў яны жылі б з найбольшай ахвотай?

Высьветлілася, што амаль палова выбірае сучаснасьць.

— У нашым стагодзьдзі, бо яно прынясе нейкія зьмены, я спадзяюся, на лепшае.

— Найбольш прымальна жыць у наш час і ў Рэспубліцы Беларусь. Мы ня ведаем, дзе мы можам апынуцца.

— Мне цяпер падабаецца. Я жыву, і мне добра.

— Я лічу, што менавіта ў сучаснасьці, але ні ў якім хаўрусе з Расеяй. Я лічу, што нашае мінулае было ня вельмі добрае, але й сучаснасьць ня вельмі добрая.

— Я б хацела жыць цяпер і ў Менску, больш за ўсё падабаецца гэты горад.

— Дзе жывем, там і добра, дзе ж яшчэ... Якая розьніца, дзе жыць. Так атрымалася, што ў гэты час жывем, значыць добра.

Цікава, што толькі два чалавекі з апытаных не хацелі б жыць у Беларусі:

— У 60-я гады ў Амэрыцы... Тая культура: гіпі, свобода: усе гэтыя дачыненьні мне вельмі падабаюцца. Я хацеў бы жыць толькі там.

— Стагодзьдзі ў шаснаццатым. Я рамантычная натура, а ў гэты пэрыяд якраз — рыцары, каханьне... Думаю, у Маскве ці Пецярбургу.

А вось тыя, хто абраў будучыню:

— Будучыня. Можа, што-небудзь палепшыцца... Часы пераменаў — самае страшнае.

— Трэцяе тысячагодзьдзе — штосьці новень-



# НАС НЯ ЧУЮЦЬ, БО МЫ МАЎЧЫМ

Важкая, можа нават вызначальная роля нашых продкаў, ці, як іх тады называлі, русінаў, у гістарычнай бітве пад Грунвальдам-Танэнбэргам бясспрэчная. Пра гэта кажуць ці ня ўсе вартыя даверу крыніцы. Нават у Длугаша, які так не любіў русінаў, з 18 названых харугваў Вітаўта ажно 14 — зь беларускіх ці ўкраінскіх земляў. Але такія факты ведаюць спэцыялісты. Для людзей паспалітых часам і ў Беларусі гэта трэба тлумачыць, даводзіць, а ў маштабе міжнародным Грунвальд сапраўды застаецца польска-літоўскім.

Прычынаў таму шэраг. На ўзроўні коду такая выразная неадпаведнасьць падзеі і яе гістарыяграфічнага міту была зададзеная дыскрэтнасьцю нашай традыцыі, зьменамі гістарычнага імя Беларусі, а потым павялічаная неразьвітасьцю беларускай гістарыяграфіі. Фактычна, толькі пасьля развалу СССР, калі ў Беларусі сваёй гісторыі стала надавацца сур'ёзная ўвага, мы пачалі шырэй пісаць пра Грунвальд. Нават тое, што змаглі, дазволіла «прыўласьціць» гэтую падзею, зрабіць фактам масавай сьвядомасьці (і назву ж сваю знайшлі — Дуброўна). Іншымі словамі, хоць часткова споўнілі тое, што палякі й літоўцы пасьпелі сто гадоў таму. Але нашыя публікацыі пра Грунвальд засталіся рэчамі «хатняга ўжытку»: навонкі яны не працавалі. Ну як сьвету ўведаць пра ўдзел беларусаў у той славутай сечы, калі мы не сказалі яму пра гэта? Ані гіды, ані аўтары энцыкляпэдычных выданьняў або сынтэзаў-падручнікаў не бяруць у рукі аўтэнтычных крыніцаў — летапісаў і кронік. Яны карыстаюцца гатовым прадуктам нацыянальных гістарыяграфіяў, у якіх — уласныя вэрсіі мінулага. Кожная нацыя эгацэнтрычная і ня дзеліцца «сваёй» гісторыяй, тым больш перамогамі.

Праблема ўскладняецца тым, што беларусы адсталі ў нацыянальным разьвіцьці ад суседзяў, спазьніліся на «прыватызацыю» гісторыі. Эўрапейская візія мінулага ўжо сфармаваная, а яе рэвізія вымагае вялізных высілкаў і адпаведнай дзяржаўнай палітыкі — унутранай і міжнароднай. Ня маючы нічога гэтага, мы не набываем і сваёй гісторыі. Мы проста не падаем сьвету голасу. Сьвежы прыклад: у найноўшай двухтамовай «Глябальнай энцыкляпэдыі гісторыяпісаньня» прадстаўленыя гістарыяграфіі і гісторыкі літаральна ўсіх краін сьвету, за выняткам Беларусі. Адзін беларускі гісторык, праўда, фігуруе двойчы — наш Даўнар-Запольскі: першы раз ва ўкраінскай, другі — у літоўскай навуцы... Ізноў жа таму, што няма сьледу нашай нацыянальнай гістарыяграфіі, нас не чутно, мы самаізаляваліся. Каб нас чулі, мусяць быць кандыцыйныя — па эўрапейскіх стандартах — прадукты, прычым на сусьветных мовах. Дасюль — ніводнай такой працы беларускіх гісторыкаў ні па-ангельску, ні па-нямецку, ні па-француску... Тое ж з Грунвальдам. Мы ня маем уласнага навуковага дасьледаваньня самой гэтай бітвы, не сказалі яшчэ ў грунвальдазнаўстве свайго слова нават па-беларуску. На каго ж тут крыўдзіцца...

**Генадзь Сагановіч**

# ЗЯЛЁНЫ ГАЙ

За «Грунвальдзкую сечу» Матэйка атрымаў сыбалічнае каралеўскае жазло. Старыя маэстра так пераняўся гэтым, што ўжо сам абвесьціў сябе каралём у мастацтве. Мастакі даволі скептычна ацанілі эстэтычныя вартасьці «Грунвальда». Адзін адцеміў, што гэта палатно «не мастацкае, а тэхнічнае, гэта *разрэз* бітвы», а другі заўважыў, што ягоныя фрагмэнты трэба «мазольна расшыфроўваць і зьвязваць». Матэйка стварыў не мастацкі твор, а *праект* даўняе й гераічнае рэчаіснасьці. Сёньня б гэта назвалі манумэнтальнай прапагандай. Такую функцыю «Грунвальд» да сёньня выконвае пасьпяхова, як ні з чым не параўнальны твор. На ім узгадаваліся пачуцьці палякаў, для якіх гэтае палатно было не мастацтвам, а прадметам культу. Яго хавалі ад акупантаў, за яго гінулі людзі, як за рэліквіі ў сярэднявечча. Можна з пэўнасьцю сказаць, што твор Матэйкі прысьпешыў аднаўленьне Польшчы...

Ці ёсьць у Беларусі твор мастацтва, які б мог выконваць гэткую ж ролю ў жыцьці нашай нацыі, як «Грунвальд» у палякаў? Можа «Пагоня Ярылы» Драздовіча? Замалое палатно, ды й рамантычны сымбалізм не ўплывае дыдактычна... Нацыянальны банк Беларусі прапануе сёньня сваё: «Нацюрморт» Хруцкага, які зьмясьцілі на новенькай, мільённай купюры... Першы жывапісны твор на нашых грошах. Мара беларускіх пэнсіянэраў: куча сьпелае садавіны й гародніны ў кветках. З рога ўсяго многа... Шанаваць выяву прадуктаў як нацыянальную Ідэю?.. Нехта прапанаваў «Партызанскую мадону» Савіцкага. Не надаецца. Па-першае, твор банальны, а па-другое, вісіць у Маскве. Хай там і застаецца.

Сёньня дзевяціметровы холст Матэйкі літоўцы разглядаюць як сцэну са *сваёй* гісторыі, як

# НАШЫМ

кае, цікавае. Проста я дастаткова добра ведаю гісторыю, там мне будзе нецікава.

— Мабыць, у будучыні. Таму што ў будучыні будзе незалежная вольная Беларусь.

Толькі дзясятая частка апытаных студэнтаў-гісторыкаў назвала сваім улюбёным пэрыядам часы Вялікага Княства Літоўскага:

— Пэрыяд ВКЛ. Напэўна, стагодзьдзе шаснаццатае, пачатак. ВКЛ у гэты пэрыяд было вельмі моцнае.

— Напэўна, у часы ВКЛ, стагодзьдзі ў шаснаццатым — росквіт нашай культуры, росквіт незалежнасьці.

Часам маладыя людзі згадвалі Полацкае княства, часам — канец дзевятнаццатага стагодзьдзя, некалькі разоў — васямнаццатае... Толькі адзін з рэспандэнтаў сьвядома перанёсься б у мінулае пры ўмове, што на пэўны час:

— Жыць у апошнія гады Рэчы Паспалітай, каб удзельнічаць у паўстаньні Тадэвуша Касьцюшкі, каб пазбавіць нашую спадчыну ад такога лёсу дурнога.

Але ня ўсіх апытаных цікавіць будучыня альбо мінулае дзеля будучыні. Знайшліся й прыхільнікі лёзунгу «Наперад, у мінулае!»

Магчыма, наступная цытата патлумачыць, чаму ўжо колькі часу беларусы «вісяць» паміж мінулым і будучыняй:

— У каменным веку, тады быў камунізм, дэмакратыя. Разумееце, чым больш складаная культура, тым горш у ёй жыць.

**Севярын Квяткоўскі**

# УРАЖАНЬНІ — ПАСЬЛЯ

У Вільні экспануецца «Грунвальдзкая бітва». Афішы, эфір і друк не пакідаюць ніякай магчымасьці застацца па-за падзеяй. Усё зроблена для таго, каб кожны чалавек хоць аднойчы спрычыніўся да вялікага. Мае тутэйшыя сябры папракнулі: як так — не пабачыць сапраўднага Матэйку! Адзін зь іх агітаваў памерамі палатна».Ты толькі ўяві сабе — пяцьдзясят квадратных мэтраў. Гэта ж больш чым уся твая кватэра!» Мая кватэра сапраўды меншая. Але ж пайшоў я ў музэй з мэтаю ўразіцца чымсьці большым.

Стоячы ў чужамоўным натоўпе, у да бляску адрэстаўраваным Арсэнале, сярод пышнага харавства жырандоляў ды кілімаў і насупраць вялікага князя, вельмі падобнага да паэта Анатоля Сыса, я думаў пра адно. Ня ўражвала. Маладыя, рыхтык рок-музыка, экскурсавод тлумачыў па-літоўску, абводзячы чырвоным ліхтарыкам старанна выпісаныя гістарычныя партрэты. А ў мяне ад іх сузіраньня, хоць ты трэсьні, не абуджалася ніводнай эмоцыі. Я стаяў перад выявaю вялікага трыюмфу, быццам перад тэатральным макетам. Можа, уся справа ў тым, што на карціне сярэднявечнае сечы няма ані кроплі крыві? Я паспрабаваў ва ўяўленьні падключыць да ўбачанага гук. Крыкі, лязгат зброі, тупат коней. Але й гэта не атрымалася. Я бачыў адно застылых маўклівых натуршчыкаў у цішыні майстэрні.

І тут згадалася іншае. Позьняя восень пазамінулага году. Ворша,куды мяне запрасілі пасьпяваць. Шэрая савецкая вуліца ўздоўж Дняпра. І стары, абязьвечаны брудназялёнага колеру касьцёл. Я зайшоў у гэты храм, дзе ад былога харавства не засталося й сьледу. Старая манашка-місіянэрка ціха павіталася са мною на польска-беларускай мяшанцы. Пэўна, з жаданьня чым-небудзь мне паспрыяць яна запыталася, ці бачыў я карціну «Бітва пад Воршай»?

У былой бакавой капліцы, на нетынкаванай сьцяне, у паўзмроку, нібы абраз, вісела невялікая рэпрадукцыя вядомай карціны невядомага мастака. Намаляваная з той доляю ўмоўнасьці ў вывах людзей і з такой дакладнасьцю ў кампазыцыі, зь якою мог пісаць толькі ўдзельнік пабоішча, што адбылося ў некалькіх вёрстах уверх па Дняпры і ў некалькіх стагодзьдзях таму. Але час драбнеў перад прасторай. Тым больш — тут бітва, магчыма, і мае продкі. І тут сам сабою «ўключыўся гук»: крыкі, лязгат зброі, тупат коней... Колькі ж я тады прастаяў, вывучаючы карціну, аб якой раней толькі чуў? Само месца й антураж быццам ператварылі для мяне рэпрадукцыю ў арыгінал.

Так, я ніколі ў жыцьці больш ня ўбачу сапраўднай «Грунвальдзкай бітвы». Але сказаць, што я ніколі ня бачыў сапраўднай «Бітвы пад Воршай», таксама не магу. Зрэшты, ці можна ўвогуле казаць пра стопрацэнтовае бачаньне ў адносінах да мастацтва. Можа з часам і мой культпаход на Матэйку ажыве ў памяці ўражвальным успамінам?

**Зьміцер Бартосік**



бітву, якую ачоліў вялікі князь Літвы Вітаўт... Па Вільні вісяць рэкламныя шчыты ў промнях пражэктараў, плякаты, афішы, якія заклікаюць наведаць карціну «Грунвальдзкая бітва». Літоўцы называюць Грунвальд «Жальгірысам», што літаральна перакладаецца як Зялёны гай. Гэтае імя тут носяць спартовыя каманды, заводы, стадыёны, вуліцы, санаторыі, гатункі піва і цыгарэтаў. За саветамі «Жальгірысам», гэта значыць Грунвальдам, называлі нават калгасы і піянэрскія лягеры...

А калі б «Грунвальд» прывезьлі ў Менск? Да нашае гісторыі слынная сеча мела ніяк ня меншае дачыненьне, пра што добра расьпісана ў тузіне беларускіх кніг. Беларускія мастакі таксама панапісвалі свае «грунвальдзікі». І былі нават спробы, падглядзеўшы ў літоўцаў, перакласьці Грунвальд зь нямецкае як «Зялёны Гай»... Ці ўтварыўся б у нас вакол карціны такі ажыятаж, як цяпер у Вільні? Думаю, не... Дзеля гэтага публіцы трэба добра прасякнуцца гонарам за сваю гісторыю... Справа ўсё ж ня ў творах мастацтва, а ў пачуцьцях, што яны выклікаюць.

**Сяргей Харэўскі**

100 ТВОРАЎ МАСТАЦТВА XX СТ.



# УЛАДЗІМЕР КУДРЭВІЧ. РАНІЦА ВЯСНЫ

Факт навучаньня Ўладзімера Кудрэвіча ў старой Лібаве, дзе былі моцныя нямецкія й скандынаўскія культурныя ўплывы, дзе ізаляцыя ад Расеі, калі й не была прынцыповаю, дык прынамсі падсьведамаю, стаў вызначальным для ягонае раньняе творчасьці. У Латвіі пачатку нашага стагодзьдзя традыцыі француcкага мастацтва былі ў модзе. Гэткія мастакі, як жывапісец Пурвіт ці скульптар Залькалн адметны нацыянальны стыль шукалі менавіта ў найноўшых плынях...

... Па вяртаньні ў Беларусь, Уладзімер Кудрэвіч апынуўся ў коле аднадумцаў, гэткіх самых маладых экспэрымэнтатараў, шукальнікаў нацыянальнага зьместу ў транснацыянальных, адпаведна найноўшых формах. Сярод ягоных паплечнікаў, якія ўтварылі ў Менску майстэрню «Выяўленчае мастацтва» ў 1923 годзе, былі і Станюта, і Філіповіч, і Ахола-Вало... Атмасфэра Менску пачатку 20-х гадоў моцна розьнілася ад Віцебску ці Гомеля, дзе ў тыя часы адбываўся таксама нечуваны па маштабах экспэрымэнт — зьмена эстэтычных уяўленьняў нацыі. У Менску ніхто нічога не ламаў. Тут мірна суіснавалі самыя розныя плыні. А асноўнай задачай Галоўпалітасьветы, дзе мастацкі аддзел ачольваў Станюта, было падтрыманьне гэтае разнастайнасьці, пешчаньне багацьця формаў... І беларусізацыя. Як ні парадаксальна, але ня ў Віцебску, дзе былі створаныя сусьветныя шэдэўры, а ў Менску свабода творчасьці была неабмежаваная. Можа і з прычыны таго, што тут не было гэткіх камісараў, як Шагал, альбо бескампрамісных апалягетаў кшталту Малевіча. «Левізна» толькі кранула некаторых мастакоў. Іх цяжка ўбачыць у работах Станюты ці Астаповіча, ня кажучы ўжо пра Кудрэвіча.

У гэты час Уладзімер Кудрэвіч, насуперак усім тагачасным спакусам, піша дзясяткі пэйзажаў. Толькі на Першай Ўсебеларускай мастацкай выставе ён прадэманстраваў блізу 40 краявідаў. Гэта былі й пісаныя алеем, і акварэльныя работы, якія ўвасаблялі новы, найноўшы погляд на беларускую прыроду. Не фіксатарскі, краязнаўчы позірк, а шырэйшае разуменьне каляровых, сьветлавых адметнасьцяў НАШАГА паветра, не рэчаіснасьць, а *уражаньне* ад яе. Уладзімер Кудрэвіч стаў найбуйнейшым майстрам пэйзажу пачатку 20-х гадоў.

«Раніца вясны» была напісаная ў 1924 годзе. Бярозавы гаёк, шапаценьне лістоты, россып пяшчотных веснавых кветак. Ня варта шукаць тут нейкага пэўнага месца, корпацца ва ўспамінах: ці гэта ўскраіна Менску, ці недзе над Дняпром... Не, гэта не сапраўднае месца, не сапраўдная канкрэтыка... Яна йснавала адно ва ўяўленьнях, ва ўражаньнях. Ну, насамрэч, хіба бярозы гэткія танклявыя, хіба шаты іхныя гэткія высачэзныя?..

У гэтым палатне з амаль вучнёўскай руплівасьцю Кудрэвіч скарыстаўся з прыёмаў пуантылізму, аднаго з накірункаў імпрэсіянізму, які быў вынайдзены ды распрацаваны Сёра... Паводле практыкі й тэорыі пуантылізму, усе колеры існуюць паасобна, а вось нашае вока і ўражаньне іх перамешвае. Дык навошта перамешваць на палітры чысьціню, пераўтвараць яе ў нячыстыя плямы, пазбаўшы вочы й розум радасьці? Гэткае спэктральнае, а не мэханічнае, зьмяшэньне колераў дае ні з чым не параўнальны эфэкт дрыготкага зьзяньня, надматэрыяльнасьці, большае сапраўднасьці ў нашым уяўленьні, чым гэта ёсьць у сапраўднасьці.

Кудрэвічава манера больш імпульсіўная, лягчэйшая. Прыдуманыя дрэвы ў прыдуманым паветры складзеныя з чатырох колераў — зялёнага, блакітнага, жоўтага і сіняга ў іх бясконцым калейдаскапічным судачыненьні. Кропкі колераў то спалучаюцца звонкім дакрананьнем, то разьбягаюцца ў далёкай сьвежай і новай імжы, што пакуль не набрыняла сонцам і летнім скварам... Фантастычная выява трапна й лёгка, нібы ў прымружаных вачах, даносіць нашае не імгненнае, а сабранае ўражаньне, успамін пра канец той вясны...

«Раніца вясны» ўпершыню была экспанаваная ў год свайго напісаньня на Ўсебеларускай выставе ў Менску... За доўгія пазьнейшыя гады Кудрэвіч, на жаль, не пераўзышоў сам сябе. Палотны выдатнага пэйзажыста станавіліся ўсё больш ляпідарныя. Зрэшты, гэтаму ёсьць тлумачэньне. Вонкавыя грамадзкія ўмовы і ўмоўнасьці аказаліся мацнейшымі. Нават у жанры пэйзажу...

Толькі рэхам паваенная карціна, адна з апошніх, «Вечар на возеры Палік» сьведчыць пра высокага кшталту майстэрства аднаго з пачынальнікаў жанру пэйзажу ў нашым мастацтве нашага стагодзьдзя.



**Уладзімер Кудрэвіч** (1884, Чавусы — 1957, Менск), жывапісец, пэйзажыст. З 1903 па 1906 гады вучыўся ў мастацкай вучэльні ў Лібаве (Латвія). Удзельнік выставаў з 1921 году.

**Сяргей Харэўскі**

## Алена Аляксандрава

БЕЛАРУСІ

Я тут жыву, у самым тваім сэрцы,
Сярод тваіх муроў і камянёў.
Дай Бог пражыць тут, тут жа і памерці,
Пачуць апошні плач тваіх званоў.

Сумую аб табе, мая краіна.
Цярпеньня мой сканчаецца запас.
Не разумею, за якія віны
Вякамі цяжкі свой нясеш адказ.

Пасаг твой, пэўна, – мучыцца да скону,
Ці быць чыёйсьці зганьбленай рабой.
Жабрачкай есьці па чужых прытонах,
І раз на век пабыць самой сабой.

Расхрыстанае цела патапталі:
Занадта «доўга» ты сабой была.
А мы, няшчасныя, цябе не ўратавалі,
На грудзь табе сьляза мая сьцякла.

Гаротная, забітая краіна,
Асірацелы, цёмны твой народ.
Як костку, ён сабакам цябе кінуў,
І, як вар'ят, сьвяткуе твой адход.

Ты, як журба параненага птаха,
Як кроў, што паласой лягла на сьнег,
Як той няшчасны, што ўзышоў на плаху,
Зрываецца на гістэрычны сьмех.

Завошта лёс пракляў цябе навекі?
Хіба патрэбны цяжкі твой хаўрус?
Прашу, не закрывай сваіх павекаў, –
Ты жыць павінна, маці-Беларусь!..

## Аляксандар Антончык

УСЕМАГУТНЫ ЧАС

На часткі рве час кантынэнты,
У попел трушчыць горы,
На месцы джунгляў экзатычных
Сьцюдзёны творыць моры.

У бяздоньні топіць астравы,
Мяняе шлях плянэтам,
Дае загад імчаць да нас
Імклівым зь льда камэтам.

Сьцірае ў прах ў млынах сваіх
Сучаснасьці зярняты.
Зь вянкоў каменнага і бронзы
Здабыў умол багаты.

Вядзе у вечнасьць чарадою
Плямёны і народы,
Дзяржавы рушыць і стварае,
Зьмяняе твар прыроды.

У яго сьвятліцах спачываюць
І людзі, і багі.
Жыцьцё й нябыт – адной ракі
Два розных берагі.

У гэтай рэчцы, што здаўна
Гісторыяй завецца,
Наш век бурлівы й прагматычны
Маленькай кропляй застанецца.

У вадзе з сучаснасьцю сплывуць
Адчай і харaство забаў,
Ўсе фарбы, гукі, рой пачуцьцяў
І веліч людзкіх спраў.

## Арцём Арашонак

БЕЛЫЯ КВЕТКІ ЧАРОМХІ

Белыя кветкі сыпле чаромха
на пакацісты бок валуна.
Як невядомая, чыстая зорка
зьзяе пялёстак ў брылі пастуха.

Схілы ў лугах – аўстрыйскія Альпы,
тонкі водар плыве над вадой.
У «сьнежных» садах невялікія хаты
зьліліся бязьлікай і шэрай гурбой.

## Вадзім Болбас

З К. І. Галчынскага

«КРОНІКА АЛЬШТЫНСКАЯ»

працяг

7.

Над долам туман дыміцца,
Узьнесен ліхтар месяцовы.
Ці бачыш ты? Ноч імчыцца!
Як воз з аркестрам вясковым.

На лбах коней прыселі совы.
У грывы ўвіты касьнік каляровы.

Пуга ўзьвіваецца, цуглі зьвіняць.
Цішыню абудзіце, прывіды-смыкі!
Да сьвітаньня! Нікому іх не суняць!
Будуць зь сернамі таньчыць алені, дзікі!

8.

З усіх жанчынаў сусьвету
Найпрыгажэйшая – ... Ноч!

9.

Ідзе яна плаўна, павольна
Пад велічнай брамай нябёсаў.
Усё ў ёй пекна, чароўна,
А пахне яна цынамонам.

З гор ніжэй ідзе у даліны.
Вочы пекны! Пагляд ястрабіны!
А ногі, як стройныя сосны!

І дарэмна дзівіцца, пытацца –
Бо ні дна няма зорным скляпеньням!
Ні мяжы няма ночы мілоснай!

10.

Яна расьцяклася шырока,
Велічная, жывая,
Срэбрыць рогі каровам.
Дахі хат асьвятляе.

Яблыкі з гольля страсае
Дзецям у сны кідае.
Радая сьпевам і скокам
У карагод зьбірае.

Смыкам стукае ў вокны
На возера зазывае.
Каб пад звонкія струны
Там і сьпяваць, і плаваць!

11.

А на ўскрайку лесу
Ў шчылінах паміж дрэваў
У промнях пыл залаціцца,
Быццам Фэб згубіў сваё кола.

Босы іду па балоце.
Зелень другая, сьвятло другое!
Блакіт, нібы покліч матулі!

12.

Калі праз лес сасновы йшоў.
Адчуў трагедыю мужчынаў.
А трапіў у ліставы лес –
Пачуў там гукі флейты, сьмех,
Нібы ў пакоях у жанчыны.

13.

Шмат аб чым тут напісаць бы трэба!
Ды ніякіх не хапае словаў.
Аб вавёрках, скоках бацяновых,
Аб хвалях травы, нібы сукнях балёвых.
Аб белых мятлушках, ялінах зялёных,
Аб сонечных жартах гульні каляровай.

Увайшоўшы ў лес, пра ўсё забудзеш!
Пяцьдзясят гадоў табе ці дзевяць.
Бачыш лес, бы краявід чароўны!

Ён пратрэ табе пяшчотна вочы,
Дотыкам, як матыльковым крыльцам,
У званочак сіненькі пазвоніць,
Мяккім мохам забінтуе сэрца.



## Мара Вусьцішная

С. К.

...А зь неба зьвісае спатнелая поўня...
Кахаем – ня помнім
каханкаў імёны
ўжо на разьвітаньні...
Гады нараджэньня, гадзіны спатканьняў...

Крывое люстэрка
фіксуе скажэньні.
Агонія доўжыцца
ад нараджэньня.

Гадзіны няўмольна
сьцякаюць праз пальцы.
Як салодка з памяцьцю
ўсё ж разьвітацца!

Спатнелыя, сонечным жнівеньскім
ранкам,
Мы паўтараем імёны каханкаў,
А ўвечары зноўку нічога ня помнім...
А зь неба зьвісае спатнелая поўня...

## Кандрацёнак

ДУША

Дзе шукаць мне цябе?
У начны небасхіл углядацца,
ці караляў старых дакранацца,
пакідаючы сум варажбе.

Не сьціхае, нудзіць успамін:
як нам некалі хораша была!
Ды даўно ўжо хавае магілу
на маўклівым пагосьце палын.

Недарэчнае бруднае цела
ты ня здолела болей трываць.
Каб пагардлівы лёс свой зламаць,
ў недасяжны сусьвет паляцела...

За пакутлівы, здрадніцкі крок
не кляну я цябе, не крыўдую.
Толькі плачу і вельмі шкадую,
захінуўшыся ў вусьцішны змрок.

## Дзед Карней

З «АНТЫНАРОДНАГА АЛЬБОМУ»

Вітам, панове, я пан Казанэцкі,
Я рэакцыйны і антысавецкі.
Тут я бываю па справе ня рэдка,
Тут разьвіваю няўрадавы сэктар.

Мешкам ў Варшаве, маю там справу:
Гранты для пані і гранты для пана.
Грошай хапае, усё будзе файна.
Нех Бог бароніць ІDEE і Паўла.

ВЫПАДАК НА МЯЖЫ

У край беларускі, край савецкі
Паехаў Павал Казанэцкі.
Ён ўзяў сабе такі квіток,
Каб ехаць ноч, а ранкам ў Менску.
Як сеў, адразу заняў месца
І адвярнуўся у куток.

Цягнік спыніўся на мяжы,
Дзе пашпарт вынь і пакажы,
Дзе кожны мусіць прачынацца,
Каб хутка аддэкляравацца.

Над Казанэцкім мытнік стаў
І досыць ветліва спытаў:
«Наркотыкі? Гарэлка? Цыгарэты?»
Што адказаць ён мог на гэта?
Наш добры сябра Казанэцкі?!
«Калі Вы будзеце ласкавы,
То прынясіце кубак кавы!»

## Янка Лайкоў

***

Можа бачылі: сьпячых твары
Дзіўна палатнеюць дасьвецьцем.
Нібы попелам сыпкім шарым
Абсыпае іх ранішні вецер.

Нібы так іх кахае неба,
Як кахае іржавыя пожні,
Як кахае маладзіковае срэбра,
Як кахае закаханага кожнага...

Мулка ў мроях уласных сьпячым:
Перажыць бы дасьвецьця хвілі!..
Можа бачылі: душы плачуць,
Бо ня хочуць ісьці ў магілы.

## Валянціна Рашэтнік

ТАТУ

Апошні крок. Апошняя ўсьмешка
Кранула вусны.
Апошні ўздых: «Нарэшце!»
І ў вачах – пуста.

Апошняя хвіліна, што чакаў
І да якой ішоў усё жыцьцё
З апошняю надзеяй на дабро,
На сьветлае у сэрцах пачуцьцё.

Ты блізкім верыў, як сабе. І памыліўся!
На зайздрасьць, на чалавечы эгаізм,
На сквапнасьць, несумленнасьць ты
забыўся.
І сэрца моц аддаў ты «родным» тым.

Яны – нібы вампіры. Аджылі зь цябе
І крыж на іншы сьвет табе ж злажылі:
Памкненьні, справы добрыя твае
Сваёю злосьцю, чарнатою перакрылі.

Ну што ж! Чакае некалі усіх
Часіна для пытаньняў і адказаў.
Дабро ці зло зьбіраем і нясем
На шалях справядлівасьці ўзважыць?

Ты рушыў у незваротны зямны шлях,
Ледзь дачакаўшыся любімы травень.
Ты – у дарогу, а ўсьлед табе – вясна
Апошні месяц свой ва ўбраньні лепшым
выпраўляе.

Ты ўзяў з сабой паветра чысьціню, узяў
сонца
зьзяньне.
І кветкі ты панёс у падарунак Ёй.
Зь Ёй некалі ўвясну зьвяло цябе
каханьне,
Застаўся безь яе ты іншаю вясной.

Апошнім стала ўсё. Каханьне ж – без
канца.
Каханьне, як сусьвет, ня мае межаў.
У сьне сваім малю цябе сказаць
І быццам чую, як жывеш ля зорных
сьвятых
вежаў:

«Багацьцю ў сундуках там месца не
шукай.
І золата ня зрушыш ты з сабою.
Там думак і пачуцьцяў добрых край,
Там ў чорным колеры ня будзеш мець
спакою.

Там зноўку ўсё і лішняга няма.
Там сэнс жыцьця у вечнасьці знаходзім.
Там разбураецца вялікая сьцяна,
Што на зямлі хлусьнёй і прагавітасьцю
вакол сябе
ўзводзім.

Патрэбна адарвацца ад абломкаў тых
І сэрцу ўласнаму паверыць.
Навошта заставацца ў ланцугах,
Калі стагодзьдзі прыйдзецца адмерыць?

Й галоўнае скажу: свабоду там знайшоў
Ад цяжкіх сваіх думак, слоў і спраў.
Пакінуў іх я у жыцьці былым
І вечную ахову неба атрымаў.

Свабоды, шчасьця не дасягнеш на
зямлі.
Ці могуць быць яны ў зьвярыных зграях?
Жыві для будучыні, памятай пра нас,
усіх,
Хто цябе любіць і ў твой час чакае».

Хоць і ў сьне размова гэтая была,
А для мяне хвіліны тыя – сьвята.
Калі змагу хоць трошачкі яшчэ
Пагутарыць з табою, родны тата?

Хутчэй ляці, маруднае жыцьцё!
У доўгім сьне зямным я крочу не да
сьмерці.
Ад вечнасьці мне даўна запрашэньне
ёсьць
На немінучую былога з будучым
сустрэчу.

## Аліса Чаротка

БЛАКІТ ВАЧЭЙ ТВАІХ

Калі стамлёная на гору паднялася,
Шлях пракладаючы на недасяжны шчыт,
На стромкасьці гранітнага ўзвышша

Скалы, я ўбачыла – блакіт.

Блакіт вачэй Тваіх адбіўся у пралесках,
Я рынулася к ім з працягнутай рукой.
Пралескі ж, сумныя, схіліўшыся, стаялі

Зацягнутыя, здалася, імглой.

Паўсьвету абышла: ні роднае краіны,
Ні рэк чужых адліў, ні сінява нябёс
Мінуласьці ўспамінаў не збудзілі,

Ня краталі даўно паснулых
кроз.

І толькі гэтыя празрыстыя пралескі,
Над пропасьцю зьвісаючы, уміг
Навеялі жывым успамінам незабыўным

Блакіт вачэй Тваіх.

Я захісталася на стромкасьці узвышшаў,
Зламаны голас мой прыціх...
Пралескі, мілыя пралескі, –

Блакіт вачэй Тваіх!

## Алёна Шарэпа-Лапіцкая

ЯЛТА

(Максіму Багдановічу)

Устань, Максім, і пойдзем, паглядзім,
Які наш сьвет прыгожы і шырокі,
Як імкнуцца ў бляску сонца залатым
Пад неба шпарка белыя аблокі,

А мора зьзяе вечнаю красой
І да ўзьбярэжжа пеніцца
прыбой.

Устань, Максім! Я знаю: Ты – жывы
І будзеш жыць, як жыў даўней між
намі,
Ты, хіба, выпіў крыху зельля сон-
травы
І ад таго забыўся сном гадамі;

Устань, Паэт! З магілы да
жыцьця
Цябе да шчасьця сёньня
клічу я!

Устань, Максім! Я памагу Табе
Узьняцца з дна Тваей сырой магілы
І зноў ты зложыш песьні аб вясьне,
Аб матыльках у садзе сінякрылых:

Ад ямы цемры вечнай
здалячы
Зноў будзеш марыць днямі і
ўначы.

Яшчэ паклічу з хмараў перуны,
Каб загрымелі грознай навальніцай,
Каб разагналі чары сон-травы,
Дапамаглі з Тваёй зьнямогай біцца,

Каб у агністым зараве хвілін
Жывы з магілы ўстаў
Максім.

І рушым мы тады з Табой між скал
Уславіць дні, якія напаткалі,
Нас песьняй прывітае з мора
белапенны
вал
І адгукнуцца срэбразвонка хвалі,

І скажа з мора хваляў
пераэвон,
Што прамінуў Твой
шматгадовы
сон.

## Сяржук Шмялёў

***

Я пабудую ў неба сходы,
Імкнуся ў неба, бы Ікар.
І хай падзівяцца народы
На просты мой звычайны дар.

Пайду дарогаю я ў неба,
Па вершах-прыступках мой шлях.
Гэх, пахутчэй дабрацца мне бы,
Пакінуць долу боль і жах...

Дарогай вершаў розных станаў,
Апавяданьняў і паэм,
Маіх няскончаных раманаў,
Нястройных мысьляў тэарэм.

Ды вецер наляціць жыцьцёвы,
Як забыцьця няўмольны бог,
І раскідае пасьні, словы,
І выб'е прыступкі з-пад ног.

Паперу разьляцецца змусіць,
Пазбавіць паэтычных чар...
І я пайду і разаб'юся.
Я, самаўпэўнены Ікар.

## Аляксей Шыдлоўскі

***

Немагчыма цягнецца час,
Быццам год, тыя пяць хвілін.
Ты ляжыш, дзе драўляны наст,
І аб доме, сям'і ўспамін.

Тут чатыры сьцяны і столь,
І ледзь бачна, дзень ці ноч.
Ты ляжыш і глядзіш наўкол,
Надакучыць – устань і крочь.

Есьці прынясуць – не бяры,
Бо Радзіма больш, чым жыцьцё,
Не збаяцца б тае пары,
Калі ўпадзеш ў небыцьцё.

Немагчыма цягнецца час,
Быццам год тыя пяць хвілін.
Ты ляжыш, дзе драўляны наст,
Аб Свабодзе ўвесь час успамін.

# ПРАЗ 40 ГАДОЎ

*Матэрыялы па археалёгіі Беларусі. Вып № 2. Крывальцэвіч Мікалай Мікалаевіч. Азярное 1 — паселішча эпохі бронзы на поўначы Палесься*



Зусім нечаканы сюрпрыз атрымалі ад акадэмічнага Інстытуту гісторыі тыя, хто чытае археалягічныя кнігі. Пабачыў сьвет 2-гі выпуск «Матэрыялаў па археалёгіі Беларусі». Прыгадайма, што 1-шы выпуск выйшаў у далёкім 1957 годзе (а не ў 1959, як пазначана на сёлетнім), і зваўся ён крыху інакш — «Материалы по археологии БССР» (для паўнаты ў дужках зазначым, што сэрыю меркавалі выдаваць на ўзор агульнасаюзных «Матэрыялаў па археалёгіі СССР», а тыя, у сваю чаргу, узялі за ўзор дарэвалюцыйныя «Матэрыялы па археалёгіі Расеі», вытокі якіх ужо губляюцца ў далечыні гадоў).

Увогуле, працяг прызабытых традыцыяў — добрая ініцыятыва археолягаў акадэмічнага інстытуту. Зусім нечакана для некаторых у 1993 годзе адрадзіліся «Гістарычна-археалягічныя зборнікі». Бо першы і, здавалася, апошні такі зборнік быў выдадзены Інстытутам беларускай культуры ажно ў 1927 годзе; так што сама думка адрадзіць выданьне калі і прыходзіла камусьці ў галаву, дык адганялася як сьмешная, нерэальная і непатрэбная. На справу падштурхнула гора, выкліканае сьмерцю вялікага дзеяча Адраджэньня археоляга Міхася Ткачова, і 2-гі выпуск адроджанага зборніка быў прысьвечаны яго сьветлай памяці. Далей выдавецкая справа пайшла шпарчэй; так у 1997 г. зьявіўся № 12 «Гістарычна-археалягічнага зборніку» (прысьвечаны семідзясятым угодкам вядомага археоляга і гісторыка Георгія Штыхава), а хутка справа дойдзе да № 15. І што важна, прыватных высілкаў на выданьне ўсіх нумароў было пакладзена у шмат разоў больш, чым клопату афіцыйна-навуковых уладаў. Ці не паўторыцца тое самае з новай адроджанай вэрсіяй?

Манаграфічнае дасьледаваньне Міколы Крывальцэвіча прысьвечана толькі аднаму археалягічнаму помніку — паселішчу эпохі бронзы Азярное 1 на поўначы Палесься, у Любаньскім раёне. Дасюль беларуская археалёгія ня мела так поўна выдадзеных матэрыялаў па пэўным паселішчы гэтага пэрыяду. Помнік, бясспрэчна, стане ўзорным, эталённым. Ды й сам бронзавы век Беларусі дасьледаваны слаба ў параўнаньні з эпохамі каменя і жалеза, пэўна, гэты самы «цёмны» пэрыяд нашай гісторыі, хоць у ім на тэрыторыі сучаснай Беларусі расьсяляліся індаэўрапейскія плямёны — непасрэдныя продкі балтаў і славянаў. Матэрыялы вывучэньня паселішча апублікаваныя вельмі поўна. У дадатках зьмешчаны працы іншых спэцыялістаў, дзе пададзены мінэралягапэтраграфічнае апісаньне фрагмэнтаў керамікі, вынікі датаваньня матэрыялаў на падставе радыёвугляроднага мэтаду, дадзеныя спора-пылковых аналізаў. Каго не спалохаюць такія тэмы, той, пэўна, адчуе задавальненьне ад чытаньня. У якасьці кірунку далейшага пошуку аўтар спадзяецца на дасьледаваньне суседняга паселішча, тэрыторыя якога пакрыта водамі возера Вячэра. Падводная археалёгія ў Беларусі яшчэ не атрымала распаўсюджваньня і ці будзе яна тут запатрабаваная — гэта, здаецца, пытаньне не аднаго бліжэйшага году. Будзем спадзявацца на лепшае. На заканчэньне трэба адзначыць прыгожую беларускую навуковую мову аўтара.

**Валеры Пазьнякоў**

# ГУРТ «ПОШУК»: ДВА Ў АДНЫМ

*Пошук. Падвойны альбом: Наш абавязак заставацца жыць! Першы крок, 1987 (Беларуская музычная альтэрнатыва).*



Сёньня ў стракатым скопішчы імёнаў беларускай рок-музыкі слова «Пошук», на першы погляд, нагадвае пра эстрадныя ВІА часоў таталітарнага застою. Але варта праслухаць запісы, каб зразумець, што ўражаньне ад назвы — падманула.

Месца паходжаньня гэтых запісаў — Наваполацак, час — 1987 год. Менавіта там і тады разгарнуў сваю дзейнасьць рок-клюб, а потым і тэатар-студыя «Зьніч». Фэстывалі, прэзэнтацыі, зборныя і сольныя канцэрты, спэктаклі праходзілі рэгулярна і зьбіралі аўдыторыю з розных гарадоў Беларусі. Ды й менскія гурты выступалі на ўсіх наваполацкіх «Рока-колах». Акурат у Наваполацку адбыўся адзін зь першых жывых канцэртаў «Мроі» пасьля адбыцьця вайсковай павіннасьці. На гэтай хвалі ўтварыўся «Рокаш», перайшоў на беларускую мову «Мясцовы час»... І «Рокаш», і «Пошук», і «Грунвальд» — усё гэта творчыя праекты Сержука Анішчанкі, арганізатара і рок-вакаліста. І тэатар-студыя «Зьніч» — ягоны праект, і ў «Мясцовым часе» ён пасьпеў адзначыцца.

На новай касэце прадстаўленыя два альбомы менавіта гурта «Пошук» — «Нам абавязак заставацца жыць» і «Першы крок». Але ўжо на першым зь іх мы знаходзім два гіты «Рокашу» — «Стары дом» і рок-вэрсію Воюшавай песьні «Назад». А куды ж падзелася ў такім разе імя «Рокаш»? Ды час быў такі: «Магістрат» разагналі менавіта з-за стылю (гэві-мэтал) і назвы (гарвыканкамы крыўдзіліся), «Бондзе» забаранялі канцэрты з-за назвы (на што, маўляў, намякаеце — на бандыта Джэймса Бонда ці на забаронены слоўнік Ластоўскага?). Баявы беларускі кліч «Рокаш!» — таксама. Хлопцы шукалі выйсьця і таму, відаць, сталі «Пошукам». Ды й склад калектыву пасьпеў зьмяніцца, пакуль удалося пачаць якасны запіс.

Памятаю эфэктны сцэнічны выхад дуэта Паўлёнак-Анішчанка з воклічам:

*Назад! Назад!*

*І коні ірвуцца ў бой.*

Гэта падчас выступу «Рокашу» ў Менску побач з «Мрояй» і «Белым крукам» на 1-м Вальным сойме беларускіх суполак. Але на альбоме «Пошуку» Алега Паўлёнка ўжо няма, хоць ён аўтар многіх гітоў («Назад», «Стары дом» і інш.).

Затое прыхільнікі творчасьці Алена знойдуць у складзе «Пошуку» яшчэ адно знаёмае імя — Андрэй Мітрошкін. Менавіта зь Мітрошкіным пазьней Сяржук Хамякоў стварыў свайго Алена.

Стылістычна гурт працаваў на мяжы арт- і гард-року. Але па-за ёмістай музыкай прывабіў бы сучаснага слухача і зьмястоўнымі тэкстамі. Цытаваны ўжо тэкст «Назад», як і твор «Крыжаванкі», друкаваўся пазьней у зборніку С.Сокалава-Воюша «Кроў на сумётах», а «Стары дом» — пра тое, як...

*... пад сьпеў зімовых сьцюж*

*Зносяць даўнія дамы,*

*Як часьцінкі нашых душ.*

*І зьнікаем зь імі мы, —*

пры першых акордах заўсёды выклікаў прыхільнасьць публікі ня толькі на рок-канцэртах, але й на бардаўскіх вечарынах, калі твор сьпяваў сам Алег Паўлёнак пад уласны акампанэмэнт акустычнай гітары. Не чужой у творчасьці «Пошуку» аказалася і своеасаблівая даніна гэві-мэтал-року (кампазыцыя «Наскок»), і балядная танальнасьць («Мяне каханым не заві»), і рок-н-рольныя рытмы («Дамавік»). Але такая стылёвая разнастайнасьць, выяўленая больш у другім з прапанаваных альбомаў, не руйнуе амплюа «Пошуку» як прадстаўніка інтэлектуальнай рок-плыні. Ня дзіва, што некаторыя ставіліся да яго як да бард-року, дзе трывалая літаратурная аснова лёгка кладзецца ў любыя рок-рытмы. Адно, што аспрэчвае гэтую тэзу: гэтыя «любыя» рытмы маюць стабільную стылёвую афарбоўку.

Пазьней гурт яшчэ выступаў у зьмененым складзе і пад іншай назвай — «Грунвальд». Але памяць пра «Пошук» засталася, бо, як сьцьвярджаецца ў песьні-візытоўцы:

*Пошук — гэта вятры і хвалі,*
*Пошук скідае з плячэй ярмо.*

*Той, хто знаходзіць, шукае далей,*
*Бо ў тым шуканьні жыцьцё само.*

Прыйдзе час, і гэтыя песьні ажывуць у выкананьні новых зорак нацыянальнай рок-сцэны.

**Вітаўт Мартыненка**

# ФАБРЫКА ПРАЦУЕ БЕСЬПЕРАБОЙНА

*NRM. Акустычныя канцэрты канца XX ст., 1999. 2 МС*



Самым прадуктыўным вытворцам на нашым музычным рынку безь перабольшаньня ёсьць рок-гурт «NRM». І прадукцыя ягоная на дзіва разнастайная — і стылёва, і паводле формы падачы матэрыялу: тут і канцэптуальныя стод-рокавыя альбомы, і дыхтоўныя гіт-складанкі, і вось, нарэшце, ці ня першая ў Беларусі спроба прапанаваць якасную канцэртную праграму.

Сама назва, мабыць, насьцярожыць сталых прыхільнікаў калектыву, якія прызвычаіліся да жорсткіх, замяшаных на панку й гэві-року рытмаў. Але не хвалюйцеся, усё гэта застаецца: акустыка тут зусім ня тая, якую чакаем ад таго ж Алеся Камоцкага або Андруся Мельнікава. «Мрайчукі» зусім не зьбіраюцца ператварацца ў бардаў. Проста да электрычнага драйву тут дадаецца крыху больш чыстага гуку гітарнай струны, а жывая акустыка залі давяршае пластычныя пераўтварэньні.

Яшчэ адна перасьцярога — «live recording». Адразу засьведчу, што ў нас нарэшце яго навучыліся рабіць прафэсійна: слухача зусім не расчаруе наяўнасьць мноства пабочных гукаў у такіх выпадках, затое эфэкт жывой прысутнасьці гарантаваны. Дый калекцыянэраў, якія зьбіраюць усе альбомы гурта, зусім не зьбянтэжыць непазьбежнасьць паўтораў. бо тая ж знаёмая «Одзірыдзідзіна» або «Паветраны шар» гучаць тут сьвежа й арыгінальна. А ёсьць жа й суцэльныя сурпрызы.

Калісьці мяне ўразіў эстонскі праект гурта «Metalist», які зусім ня ў стылі гэві-року, але сучасна прасьпяваў клясыку эстонскага року 60—70-х гадоў. Вось бы, думаю, хто зь беларускіх калектываў да гэтага дадумаўся: у нас жа цэлыя пласты рок-музыкі, якім былыя рэжымы проста не далі дайсьці да масавага слухача. Незапатрабаванымі застаюцца бліскучыя ўзоры творчасьці «Блізьнятаў», «Пані-братоў», «Дойлідаў», «Магістрату», «Белага крука»... І вось «NRM» паспрабавала зрабіць крок у гэтым накірунку, прыгадаўшы стары ўлісаўскі гіт «Радыё Свабода».

Па-новаму гучаць тут і вядомыя гіты з «Народнага альбому» — «Надзенька», «Простыя словы», «Лалалала», «Край ты мой, край». Па-новаму, хоць і там, і тут мы чуем голас Лявона Вольскага (акрамя «Надзенькі»). Толькі вось чаму ў апошняй з названых на гэтым «анплюгедзе» чуецца матыў «El condor pasa»?

Дарэчы, тыя, каму старая «Мроя» падабаецца больш за новы праект «NRM» (хоць бы стылістычна), знойдуць тут водгукі «мроеўскага» фэномэну 80-х, асабліва ў творах «Нацыя», «Трактар», «Мы самі па сабе», «Халодны блюз». Ёсьць у іх крыху маралізатарства, характэрнага для рок-музыкі таго пэрыяду, толькі сыграна больш зьбіта, зладжана, больш тэхнічна, а ў песьнях «Дарога», «Бацька», «Пакуль не пачнецца вайна», «Медны купарос» — проста захапляе.

Асаблівы настрой стварае ў гэтай праграме рэакцыя публікі. Як у папулярных цяпер тэлекамэдыях, пазбаўленых гумару, вам падказваюць, дзе сьмяяцца, устаўляючы фанаграмы запісанага сьмеху, дык і тут воплескі й авацыі дапамагаюць слухачу фармаваць свой настрой. Дый проста прыемна ўсьведамляць, што ты прысутнічаеш там, дзе ня змог пабываць, дзе сабралося гэтулькі публікі, якой надзвычай падабаюцца і старыя «мроеўскія» гіты («Краіна крывавых дажджоў», «Зямля», «На вуліцы маёй»), і новыя («Зомбі», «Бывай», «Са шчытом ці на шчыце», «Мітусьня»).

Бадай, новы прадукт з лэйблам «NRM» не расчаруе нічыіх спадзяваньняў. Ледзь ня ў кожным радку адчуваецца адбітак рэчаіснасьці, толькі не люстэркавы, а гіпэртрафаваны, перабольшаны, саркастычны.

**Вітаўт Мартыненка**

# ЗА ТУМАНАМ

*Крыві. За туманам..., 1998*



Гурт «Крыві» ўвайшоў у шэрагі беларускай музычнай эліты імкліва й грунтоўна. «За туманам», «Агу, вясна», «Сьветлая Зоя» сталі сапраўднымі супэргітамі праз тэле- й радыёэфір. Прычым дзьве зь іх запісаныя ў дзьвюх вэрсіях, і абедзьве зь іх папулярныя.

Загалоўная песьня альбому ў асноўным матэрыяле праграмы выглядае сьціплей, але бонус-трэк зь сіным мэтал-рымэйкам уражвае эмацыйнай напоўненасьцю. Праўда, стаўка на гучаньне бонусу, магчыма, раскалола б і «Крыві», як раскалоўся «Палац», бо гэта б быў зусім іншы стылёвы праект, а ў «Крыві» ўжо ёсьць і выразны імідж, і свая публіка. Дый гэві-металёвая гітара Піта Паўлава без праблемаў упісваецца ў яго і ў гэтым бонус-трэку, і ў песьнях «Сваточак», «Добры дзень», «Дай, Божа» ды асабліва ў «Агу, вясна».

Дарэчы, «Агу, вясна» — гэта другі прыклад вэрсіяў. Праўда, дыджэеўскі сіны рэмікс зусім ня трапіў у альбом (ён ёсьць на зборным кампакт-дыску «Вольныя танцы: слухай сваё»). І дзякуй Богу. У арыгінальнай вэрсіі гітара Піта Паўлава й голас Веранікі Кругловай настолькі саграваюць песьню, што яна так і зьзяе ўнутранай энэргіяй.

Ня стану сьцьвярджаць, што толькі гэві-металёвая цеплыня прываблівае ў музыцы гурта «Крыві». У песьнях «Бяроза», «Вутачка й селязень», «Коцік», «Каліна», «Сьвякроў» сьпявачка проста душой адчувае народную песьню.

Паводле старой завядзёнкі ў нас любяць параўноўваць айчынных зорак з аналягамі сусьветнага шоў-бізнэсу. Параўнаў бы й я: калі слухаю «Крыві», прыгадваецца творчасьць гуртоў кшталту «Dead Can Dance», «Deep Forest», Dao Dezi... Толькі тыя для сваіх этнатэхналягічных экспэрымэнтаў корпаюцца ў чужых крыніцах, знаходзячы аж зусім экзатычныя фальклёрныя плыні, а «Крыві» сілкуецца папросту з сваіх каранёў. Ня дзіва, што й касэта гэтая выдадзеная пад эмблемаю «вяртаньне да вытокаў».

**Вітаўт Мартыненка**

Юры Андруховіч

# ПОСТМАДЭРНІЗМ – МАЯ АПОШНЯЯ ТЭРЫТОРЫЯ

Сапраўды, надышоў нарэшце той час, калі постмадэрнізм у нас не крытыкуе толькі лянівы ці мёртвы. Асабіста я сябе лічу нелянівым і жывым, таму я далучыўся б хутчэй да тых, хто нападае. Пагатоў што іх тактыка здаецца пасьлядоўнай і выйгрышнай. Аднойчы я спрабаваў сыстэматызаваць і пералічыць усе (або, прынамсі, найбольш частотныя) абвінавачваньні супраць постмадэрнізму, і ў мяне выйшла, што ён:

1) заняты амаль выключна цытаваньнем, ён каляжуе, мантажуе, паразытуе на тэкстах папярэднікаў;

2) абсалютызуе гульню дзеля гульні, адкідаючы жывую непасрэднасьць творчасьці, перажываньняў, душэўнага і духоўнага, паважнасьць мастацкага апавяданьня і супэрнаратыў;

3) падрывае веру ў прызначэньне літаратуры (хто б і што б пад гэтым прызначэньнем не разумеў); вось жа, постмадэрнізм — гэта сьмерць літаратуры;

4) іранізуе наконт усяго на сьвеце, у тым ліку й самой іроніі, адкідаючы ўсялякія этычныя сыстэмы (уласна кажучы, ужо толькі «недаломкі этычных сыстэмаў») і дыдактычныя ўстаноўкі (дакладней, «рэха гэтых установак»);

5) камбінуе напаўіндывідуальнае аўтарскае «я» з рэштак іншых аўтарскіх сьветаў; вось жа, постмадэрнізм — гэта яшчэ раз сьмерць, сьмерць аўтара як творцы ўласнага індывідуальнага аўтарскага сьвету;

6) «карнавальнаю» (а насамрэч толькі посткарнавальнаю) маскаю адмяжоўваецца ад любой адказнасьці перад навакольным і за навакольнае;

7) тупа экспэрымэнтуе з моваю (-амі), мэханічна нарошчвае суму прыёмаў ды мэтадаў, а таксама іхных камбінацыяў, вось жа, зноўку — «з глыбокім смуткам паведамляем пра сьмерць...»

8) па-рабску поўзае на каленках перад віртуалам, мультымэдыйнымі безданямі й бэстыямі, прагне падпарадкаваць мастацтва электронным імпэрыям ды навек пахаваць ягоны дух у іхным інтэрпавучыньні;

9) дражніцца з масавай культурай, дэманструючы безгустоўнасьць, вульгарнасьць, ня грэбуючы «сэксам, садызмам і насільлем»;

10) руйнуе гіерархію, падмяняе асновы, пазбаўляе сэнсу, размывае межы, бярэ слова ды й саму рэчаіснасьць у двукосьсе, хаатызуе й без таго хаатычнае быцьцё, іранізуе, цытуе, каляжуе, мантажуе... ну так, гэта ўжо было.

Такім чынам, пра постмадэрнізм застаецца сказаць, што ён:

а) агнастычны, аганізуючы, амбівалентны, амэрыканскі, анэмічна нядужы, анталягічна маргінальны;

б) «бязьмежна адкрыты глухі кут», бясплённы, бі- (і болей)-сэксуальны;

в) варыятыўны, вульгарызатарскі, вечна другасны;

г) гермафрадытычны, гетэрасэмантычны, гомаэратычны, гвалтоўна-прэтэнцыйны;

д) дыскурсіўна дэфэкацыйны;

дз) дзяшовы, дзелавы;

дж) джэмападобны;

е) еўнухаморфны;

ё) ёрнік;

ж) жартацэнтрычны, жыдамасонскі;

з) закамплексавана-збачэнскі, замбавальны;

і) імітацыйны, імпатэнтны, інтэртэкстуальны, інцэстуальны;

к) кліпавы, каляжны, каляптычны, камбінаторна-кампіляцыйны, кампіляцыйна-кампутарны, канфармісцкі, кансумпцыйны;

л) лябатамічны;

м) манерны, маньерыстычны, мяртвозны, млявы;

н) надмерны, нэанэкрафільскі, нованэўратычны, нудны;

о) оптава-опусны;

п) палімпсэстычны, паразыцкі, патавы, паталягічна перасычаны, пэрвэрсійны;

р) рэкрэацыйны, рэмінэсцэнтны, разьдзярырота-пазяхальны;

с) сыты, сытуатыўны, структуроідны і структураідны;

т) трансвэстычны;

у) уранічны;

ф) фэльстонавы, фэмінізаваны, фэлінізаваны, фрагмэнтарны;

х) хваробатворны, хімэрызуючы;

ц) цэнтанічны, цынічны, цытатакратны;

ч) часа-падсумавальны;

ш) шаманічны;

э) эгалітарны, энтрапійны, «элііністычны», эклектычны, эпіганомны;

ю) юж сам не вем, які ешчэ;

я) яловы.

Апроч таго, яго характарызуюць як «посткаляніяльны» і «посттаталітарны», але гэта амаль нічога не праясьняе, асабліва ў нас.

Апроч таго, ён «ніякі».

Іншы раз кажуць, што нешта падобнае ўжо бывала: александрыйская эпоха, восень Сярэднявечча, дэкаданс fin-de-siècle, любая змучана/перасычаная культурная фармацыя. Гэта можна пераканаўча прывязваць да завяршэньня пэўнага прамежнага храналягічнага адліку, напрыклад, да мяжы тысячагодзьдзяў.

Сёй-той схільны лічыць, што постмадэрнізм пачынаецца там, дзе пачынаецца, даруйце таўталёгію — аўтарская самарэфлексія. Там, дзе тэкст перастае быць сродкам і робіцца мэтай, там межы й пасты постмадэрнізму. Там, дзе аўтар забываецца на вестку і кідаецца ў замілаваньне сабой, там, дзе зьяўляецца аўтар-нарцыс, там ужо й пачатак канца. А паколькі так бывала заўжды, дык і постмадэрнізм быў заўжды, а значыць, ніколі.

Я разгублены сярод такой стракатасьці. Мне застаецца шукаць выключна асабістых прыкметаў і азначэньняў, я ўглядаюся вакол сябе — дзе я?

*

Я жыву ў спаконвеку падазраванай і зьневажанай частцы сьвету. Гэтая частка сьвету называецца Галічынай. Магчыма таму мне і не застаецца нічога іншага, як прызнаць сябе постмадэрністам. З пэрспэктывы, напрыклад, Палесься, Галічына выглядае досыць цацкава, бо Палесьсе, гэтая касьмічная паганская калыска зь ягонай арыйскай чысьцінёй каранёў і нескаламучанымі крыніцамі, зь ягонымі вызначальнымі генэтычна-культурнымі кодамі, фальклёрам, эпасам, дыялектам, азёрамі, тарфянікамі, гатычнымі хвоямі, з пасткамі на зьвяроў і людзей, з параненымі ваўкамі, — гэта нацыянальны субстрат, сякерная аўтэнтыка і шчырасьць, павольнасьць і панурасьць, давездзены амаль да поўнага спыненьня час, паўзучая камуністычная вечнасьць.

З пэрспэктывы Палесься Галічына — гэта нейкі геаграфічны даважак, польская галюцынацыя, якая заўжды прагне навязаць Украіне сваю неўкраінскую, настоеную недзе ў таемных сіёнскіх лябараторыях волю. Галічына іранічная і імаральная, таму гэта вечнае адступніцтва і прыстасаванства, пэрманэнтнае ўніяцтва, прададзеныя ў Амэрыку дзеці. З пэрспэктывы Палесься Галічына ня проста вартая жалю, — яна постмадэрновая. Але я маю іншую перспэктыву. Дакладней, ня маю яе, бо знаходжуся тут, унутры, бо гэта мой сьвет — Цэнтральная Эўропа, такі сабе геаграфічны

# САЛЮТ ГЕРОЮ

*Працяг са старонкі 1.*

Зрэшты, малапаэтычна, але лагодна думаў герой, гэта, зь іншага боку, і добра. Значыць, рэжым галадуе. А рэжым, якому ўвесь час не стае масла, сыру, млека, яйка й курка, насельніцтву ненавісны з часоў вайны. Што ж, дзеля гэтага можна самому вытрываць посны вечар у інтэрнацкім пакоі й нашча адправіцца на заўтрашнія лекцыі.

Было ўжо зусім цёмна. Герой завярнуў на Ульянаўскую, на велізарны спуск у катлавіну, дзе збудаваны дынамаўскі калізэй. У алеі пад ліхтарамі расьцярушаныя цені дрэваў пакрывалі асфальт нерухомай сеткай расколінаў.

З раптоўным парывам ветру зямля скаланулася. Ён ледзь не прысеў ад страху, раскінуўшы для раўнавагі рукі... Бязважкія цені, як гіганцкае павучыньне, усё яшчэ калыхаліся туды-сюды.

Гэты драпежны эфэкт вымусіў нашага хлопца ўсхапіцца. У герої, як дзікі крык, ускіпеў партызанскі настрой. Жаданьне ўсур'ёз пагуляцца ў вайну ў цёмных кварталах — з вулічным боем, разгромам засадаў і сьцягам над узарванай камэндатурай.

Герой быў ва ўдары. Ён імгненнаператвараўся ў дывэрсанта ў стане ўзброенага афэкту, якому цік часу адлічвае, колькі жыць і ў якога прыцэльна цікуюць вочы. Ён распраўляўся з сустрэчнымі фарамі моцным мірганьнем — машыны ўспыхвалі й кувыркаліся прэч у аблоках выхлапаў. Ён ледзь заўважнымі рухамі корпусу ўнікаў паражэньня чэргамі трасуючых ліхтароў. Ён, не вымаючы рук з кішэняў, адстрэльваўся сорак пятым калібрам па шыбах і постацях пальцамі, зьведзенымі ў пісталет. У вечаровым эфіры, напоеным адрэналінам, яго шалёна натхнялі згадкі пра шматтысячныя шэсьці, прарывы кардонаў таранам і ўзмахі крылатых бела-чырвона-белых сьцягоў з гнёздаў па-над антэнамі й маланкаадводамі. На сэкунду здалося, што страшэнная падсьвядомая сіла, аб якой ён здагадваўся і ад якой раз-пораз здрыгалася ўся ягоная істота, прызначаная якраз дзеля гэтага.

Хуткасьць спуску, адмераная сажнёвымі крокамі, вынесла яго ў парк, на бераг Сьвіслачы, дзе патанала сьвятло вокнаў вышыннага інтэрнату. Плітка разьбягалася з-пад ног. Літыя трамвайныя рэйкі Ульянаўскай, з грукатам разагнаўшыся з гары, імклівым трамплінам выверталі на пад'ём мосту — а за ім успыхвалі агнямі канцэртны комплекс і мікрараёны аж да самае Серабранкі.

Герой задыхана рушыў насустрач мігценьню і бляску агнёў, насустрач армадам утульных, як сьвечкі, сямейных лямпачак і звышновым ліхтарным зорам. На сутыкненьне зь цьмянымі гмахамі гораду ворагаў. Герой амаль бег — каб узьляцець над парэнчамі, над ракой, зрабіўшыся грамадным, пабачыць увесь Менск, неабсяжны пульсуючы мэгаполіс... І рухнуць усім велізарным целам на вежы, будынкі, падломленыя слупы — каб нясьцерпна глушыла й рэзала, каб у целе гасьлі агні, працятыя электрычнасьцю, каб сэрца ўспароў абзац на плошчы Перамогі, а ў мозгу з жахлівым ударам праз выбітыя вачніцы выбухнулі разваліны цэглы.

***

Мы йдзем па сьлядох героя. Яго чорная постаць мільгае між дрэвамі парку, ён рухаецца дзіўнавата і з падазронай пасьпешлівасьцю. На нашых вачох яго велізарны цень, разгайданы хадою, раптам вырываецца з мосту ў неба й расьсейваецца па-над горадам. Агульны шок; мы спыняемся раіцца, ці ісьці далей. «Ды вось ён!» — ускрыквае нехта. І праўда, герой, жывы й здаровы, праходзіць мост і спакойна збочвае да інтэрнату.

Ён жыве ў студгарадку БДУ сярод хімікаў, радыёфізыкаў, віетнамцаў, арабаў і нэграў, у трынаццаціпавярховай «двойцы». Нясьмела й насьцярожана мы падымаемся на дванаццаты паверх. Пакой героя рыхтык насупраць дзяжурнае чытальні з вокнамі на цэнтар гораду. Толькі зірнуўшы ў вокны, мы ўсе сыходзімся ў адным: няма сумневаў, сёньняшняй ноччу нашае месца тут. Цыха, без сьвятла, шэптам перамаўляючыся, мы размяшчаемся за расстаўленымі ў беспарадку партамі. Хтосьці адпраўляецца да знаёмых на сёмым паверсе — як вы ўжо здагадаліся, знаёмыя ў нас ёсьць паўсюль — і вяртаецца з кавай, кубкамі й попелкамі.

Мы распахнулі абодва вакны, увесь горад зь яго непаўторным пахам і гукамі. Менск адсюль выглядае ўнушальна. Адразу пад намі даліна Сьвіслачы. Выгнутая дугой узьбярэжная — і, быццам велізарная сцэна, плошча перад Канцэртнай заляй «Менск», усеяная начнымі зыркімі ліхтарамі. А за ракой, нібы гіганцкі ўзгорны амфітэатар, шматузроўневыя ступені: аркі стадыёну, Вярхоўны суд, Міністэрства замежных справаў. Установы, офісы й крамы ў будынках сталінскага ампіру, агрмада за аграмадай, падымаючыся да самага грэбню ў цэнтры гораду. Там, на небакраі, паўстаюць гарадзкія вяршыні: вежа КГБ, Макдональдз, цыкляпічная тэлерадыёвышка... І, па-над усім, бастыён рэзыдэнцыі з галоўнай іглой краіны.

Напэўна, гэткі від з вокнаў дадзены герою зусім нездарма. Ён мае магчымасьць штовечар задумена праходжвацца ў чытальні, разглядаць сталіцу дзяржавы з тылу, з двароў, з чорнага ўваходу. Яму ўсё відаць. Стаўлю нават, што менавіта тут, дапытліва вывучаючы даляглады, ён выношвае ідэі, якія заўтра ахопяць усіх.

Нехта пачне прыладжвацца на падваконьні. Што за праблемы — я адразу перакіну ногі ў прадоньне. Я ўсядуся на вышыні дванаццатага паверху з кубкам гарачае кавы і так эфэктна разьвею воблака пары над дахамі гораду, што ўсім астатнім захочацца зрабіць, як я. Сапраўды, вялікая ноч. Быць на краі, дзе неасьцярожны рух каштуе жыцьця, адчуваць небясьпеку ўсім усхваляваным целам — што яшчэ трэба цяпер, у эпіцэнтры, побач з героем, напярэдадні гістарычных падзеяў!..

Мы з заміраньнем сэрца расьсядземся ў ваконных праёмах. Нас не заўважыць ані міліцэйскі патруль ля Цэнтравыбаркаму, ані чэкісцкая оптыка з рэзыдэнцыі, бо мы ня будзем гараніць песьняў і кідаць уніз піўных бутэлек. Мы сёньня абраныя назіральнікі, і нашая місія — чакаць, сьцішана размаўляючы толькі пра самае важнае, і ўважліва адзначаць, як будуць адбывацца доўгачаканыя й неверагодныя рэчы. Мы ашчаднымі, нетаропкімі порцыямі п'ем чорную каву, каб быць у гэтую ноч асабліва бадзёрымі й пільнымі. Каб чуць і бачыць востра, да ўколу кропкі, да моманту праўды.

У пакоі ўжо выключана сьвятло. Герой даўно памыўся, пачысьціў зубы й варочаецца на ложку. У паўдрымоце ўсплываюць то ўнівэрсытэцкія пары, то беларуская незнаёмка ў «Падкове», то тэлефонны званок дзяўчыне, голас якой гучаў сёньня ў слухаўцы досыць аддалена й суха. Але сярод іншага юначага хламу раз-пораз, і ўсё больш настойліва, узьнікаюць грозныя вобразы па-над горадам з вокнаў насупраць пакою...

***

Нашая прыцішаная гаворка начных мудрацоў пачнецца зь цяперашніх прэзыдэнцкіх выбараў. Тым больш, што пад бокам Цэнтравыбаркам у будынку канцэртнай залі. Уяўленьне імгненна перапаўняе яго падзеямі восені 96-га: выгнаньне Ганчара, Чыгір выбірае адстаўку, вечаровыя скандаваньні, і ў бой ідуць адныя палкоўнікі. Праз два з паловай гады: Ганчар галадае, Чыгір ужо ў ізалятары, зноўку палкоўнікі, і зноў паў-

# СЛОВЫ

прывід, паралельная рэальнасьць, яшчэ ўчора модная, а цяпер ужо амаль выванітаваная на інтэлектуальных фуршэтах.

Цэнтральная Эўропа, дзіця Кундэры, Мілаша і Конрада, дзіўная субстанцыя з адных толькі ідэяў, пачуцьцяў, містыфікацыяў, амэрыканская прыдумка некалькіх расчараваных дысыдэнтаў. Яна вось-вось зусім зьнікне, хай толькі палякаў са славака-вугорцамі прымуць у НАТА, а значыць, у Захад, ва «ўласна Эўропу», Украіну ж — у абноўленую славянскую фэдэрацыю; хай толькі шчоўкнуць замкі на заходніх межах другой па значэньні саюзнай рэспублікі.

Вось жа, гэтай Цэнтральнай Эўропы няма, дакладней, амаль няма. Аднак менавіта тут, на гэтай тэрыторыі мне заўважныя сія-тыя прыметы таго, што я разумею як «постмадэрновае» — таго, што прыйшло пасьля мадэрнізму, і ўжо адчутай пасьлятаталітарнасьці, і полікультурнасьці, спраектаванай у мінулае.

Нарэшце, я разумею сваё «постмадэрновае» і як правінцыйнае, маргінальнае — у тым сэнсе, у якім Цэнтральная Эўропа ніколі не магла й не хацела быць цэнтрам (што не замінала ёй увесь час апладняць цэнтры сваім жывым насеньнем, перавярнаць сыстэмы вартасьцяў, фармаваць плыні сьвядомасьці, прычым я тут маю на ўвазе нават ня гэтых бажавольных выскачак, не Ўоргалаў і Шагалаў), бо «Цэнтральная Эўропа — гэта асаблівы стан душы, асаблівы спосаб стаўленьня да сьвету», як кажа мой прыяцель Кшыштаф Чыжэўскі. А я наважуся дадаць: гэта такая правінцыя, дзе кожны ведае, што ён сапраўды ў самым цэнтры, бо цэнтар — нідзе і скрозь адначасова, а таму зь вяршыняў і нізінаў уласнай майстэрні можна цалкам спакойна глядзець на ўвесь іншы сьвет разам зь Нью-Ёркам ці нейкай Масквой. Вось яна — адсутнасьць любых восяў, вось людзкі хаатызм быцця, суцэльныя «вузлы спалучэньняў» вэртыкальнага з гарызантальным і наадварот.

І гэта мне падабаецца найбольш.

**Пераклаў з украінскай Андрэй Дынько.**
**Друкуецца са скарачэньнямі.**

# Віктар Шніп

# МНЕ СЬНІЛАСЯ ВІЛЬНЯ



***МНЕ СЬНІЛАСЯ ВІЛЬНЯ***

*Як кветак букет на шляхецкай магіле,*
*Зноў Вільня маім уладарыла сном,*
*Калі мяне ў Вільню, бы ў Храм, не пусьцілі,*
*Нібы гандляра, што гандлюе віном.*
*... Я спаў, і прачнуўся, і ўбачыў дарогу,*
*Якой мне да Вільні ісьці і ісьці,*
*Нібыта адвечнай дарогай да Бога,*
*Нібыта агню па апалым лісьці*
*Да сьвечак у Храме, якія шчэ ствараем,*
*Якога няма і ці будзе зусім...*
*Мне сьнілася Вільня, як Храм перад раем,*
*Мне сьнілася Вільня, як Ерусалім.*

***ТУТ***

*Што мы зьявімся Тут, мы з табою ня знялі.*
*Гэты сьвет несьвяты мы Радзімай назвалі.*
*Ці раней мы жылі — мы ня помнім нічога,*
*Як ня помніцца мёртваму сьмерць і дарога,*
*Па якой ён прайшоў, бо ён мёртвы, як цені,*
*Што пад рэшткамі Храма сядзяць у скляпеньні.*
*Мы зьявіліся Тут, як зьяўляюцца травы*
*На вясновай дарозе з Масквы да Варшавы.*
*Мы зьявіліся Тут, дзе ўсё сумна-часова,*
*Як туман, празь які толькі чуецца слова,*
*Што да Бога ляціць і вяртаецца з Богам.*
*Мы зьявіліся Тут і ня трэба нічога*
*Нам на сьвеце цяпер, што Радзімай завецца.*
*Гэты сьвет, дзе жывем, быццам божае сэрца...*
*Толькі ты не кажы, што ўсё дрэнна на сьвеце,*
*Толькі ты не кажы, бо пачуе нас вецер.*

***МЕНСКАЯ ВЯСНА-99***

*І сьнег растаў, нібы стушылася сьвятло,*
*Нібы ўсплыло зь нябыту тое, што было,*
*Каб зноў напомніць нам, што мы яшчэ жывём.*

*І выйшаў з дому ты, нібы трава зь зямлі,*
*Ляцелі ноччу па-над Менскам журавлі,*
*Нібыта матылі начныя над агнём.*

*І горад не прачнуўся, бо каменны ён,*
*Бо ён, як трэці Рым, як новы Бабілён,*
*Дзе нам з табой ня жыць, а толькі існаваць.*

*І сьнег растаў, нібы расплыўся мёртвы дым*
*З пажарышча, дзе мы з табой сядзім,*
*Нібы нікому не патрэбная трава.*

***

*Як незямныя кветкі, ліхтары*
*У цемрадзі спакойнай за вакном*
*Зноў асьвятляюць дворык наш стары,*
*Прапахлы зжоўклым лісьцем і віном.*
*Суседа ўчора звезьлі на клады*
*Бяз музыкі, бязь сьлёзаў, безь вянкоў,*
*Але віна было, нібы вады,*
*І пяніц, нібы на кладах крыжоў.*
*І шумна ў нашым дворыку было,*
*І адзінока, быццам у труне...*
*У цемру льецца зь ліхтароў сьвятло*
*На цень суседа ў цемрадзі на дне,*
*Куды аднойчы кожны паляціць.*
*І страшна паміраць, і страшна жыць.*

***

*Я з самотай сваёй адыходжу ў нябыт,*
*Нібы ранкам туман ад прырэчных ракіт,*
*Нібы сьнег на пагорках счарнелых вясной,*
*Нібы сон, што прысьніўся матулі маёй,*
*Я з самотай сваёй адыходжу ў нябыт.*

*І мяне ўжо на сьвеце ня будзе празь міг,*
*Нібы ціхае зьнічкі ў прасторах начных,*
*Нібы рэха ад крыку ў хаціне пустой,*
*Нібы мошкі над рыжай агню галавой...*
*І мяне ўжо на сьвеце ня будзе празь міг.*

*Толькі сьвет не заўважыць, што я адышоў,*
*Нібы кропля вады паміж сонных пяскоў,*
*Нібы з вогнішча стухлага ў полі цяпло,*
*Нібы з жоўтай лістоты на сьцежках сьвятло...*
*Толькі сьвет не заўважыць, што я адышоў.*

*І ўсё будзе штохвілі зьнікаць назаўжды,*
*Як зьнікае рака, як зьнікаюць сады,*
*Як за коньнікам збройным над травамі пыл,*
*Як крыжы і каменьне з забытых магіл,*
*Усё будзе штохвілі зьнікаць назаўжды,*
*Покуль буду тут я, покуль будзеш тут ты...*

краіны ў чаканьні цуду.

— Чыгір, у прынцыпе, наш, — стараецца растлумачыць нехта, — пагадзіцеся, больш сымпатычны, свойскі, ды хоць бы й больш чалавечы...

— Хлопцы, толькі Пазьняк, — да ўпору настойвае іншы, — ня трэба сініцу ў руках. Лепш Зянон у небе.

Адзін шэры кардынал выказаў мне калісьці геніяльна простую формулу. Беларусь як дзяржаву, казаў ён, можа ўратаваць толькі саюз Народнага Фронту й беларускае намэнклятуры. І шкада, што не атрымасцца Пазьняка ў прэзыдэнты, а прэм'ерам пры ім Чыгіра. Вельмі шкада.

Мы павінныя будзем паразмаўляць і пра Андрэя Клімава, які таксама быў здольны з посьпехам раскруціцца на прэзыдэнцтва. Проста перад намі, на ўзьбярэжнай — пабудаваны ім дом, вышынны Дом Клімава, аграмадны, элітны, з парадам сатэлітарных талерак на даху. Сёньня Клімаў у турме. Размова зачаравана віруе вакол вобразу беларускага прадпрымальніка, беларускага алігарха, вакол сярэдняе клясы, балазе, «Дынама» побач — і Дом Клімава пацішу-патроху засяляецца гандлярамі карэйскай відэапаратуры, маянэзу ды красовак, добрапрыстойнымі гуртавікамі, ульлянікамі шапікаў і буйнымі валютчыкамі. Радасьць рэформаў — гэта для іх. Пасьля Лукашэнкі такога люду будзе ўсё больш і больш. «Хаця, па ідэі, — дасадліва дадае нехта, — у такія дамы мусіла б перабрацца зусім іншая эліта...»

Час пераваліў поўнач і набліжаецца да самае глухамані. Мы працягваем свой поўны таямнага сэнсу начны рытуал, які няўмольна, з агульнай маўкліваe згоды, вядзе агляд панарамы справа налева, процi бегу вачэй пры чытаньні.

Кагосьці, між іншым, працінаюць дрыжыкі. Нэрвы.

Засяроджваемся на чарговай вышыні — чырвоны маяк пэйджэрнай вежы, што мігціць над Залатою Горкай. Калісьці гэтая аграмадных памераў канструкцыя, расфарбаваная ў белыя й чырвоныя колеры, глушыла варожыя галасы з Захаду. Потым яе разьвянчалі, і з тых часоў маяк абслугоўвае пэйджэрныя кампаніі. Мы па чарзе, як тэлефоны выратаваньня, як магічныя закляцьці, пачынаем называць нумары й абанэнтаў — дзеючоў апазыцыі, праваабаронцаў, тэлевізійнікаў і незалежных сродкаў масавае інфармацыі. Мы перабіраем пазыўныя, паўшэптам, з прыдыханьнем, наперабой успамінаем усіх, і ў адказ на гэтае начное гуканьне расьце, шырыцца трывожны шум — ці то рэха зь вяршыняў гмахаў, ці то хор прамогa эфіру, вайсковай спэцсувязі й радыёперахватаў.

Яшчэ далей, у раёне плошчы Перамогі, падсьвечвае неба пражэктар. Нябачныя хмары дымна клубяцца ў расьсеяным сьвятле. Хтосьці ўзгадвае тэлекадры ўспышак над Багдадам і Бялградам. Шум, якім поўніцца горад, перарастае ў гул бамбавікоў і далёкае павстранай сырэны. Мы напаўголасу спрачаемся пра NATO, пра сэрбаў, якія ўсё-такі нам славяне, пра Лукашэнку, які мае ўсе шанцы стаць наступным. А вакол пачынаюць дрыжэць ваконныя шыбы ў прадчуваньні кашмарнага разбурэньня, і хтосьці, на вельмі высокіх нотках, ледзь вымаўляе: «Ой-ёй-ёй...»

Мае суразмоўцы робяцца ўсё больш узбуджанымі. Вочы паблiскваюць, як перад навальніцай. Адчуваеш, што блізка ці то нянавісьць, ці паніка — бо наступнай на даляглядзе паўстае галоўная тэма, цытадэль рэзыдэнцыі. Крэпасьць з асьвечаным сьпічаком, над якім разьвінаецца сьцяг — я вам клянуся, чорны. Гэта апошні бой, мы ўсе разумеем і таму рыхтуемся. Вырашаецца лёс героя. Нехта гатоўна кашляе, я глыбокім каўтком дапіваю каву разам з гушчай, да страшэннае горычы ў сьціснутых зубах, а адразу некалькі назіральнікаў, як па камандзе, салютуюць попелам цыгарэтаў. Рой агеньчыкаў іскрыстым успыхам расьсейваецца ўнізе і гасьне дзесьці на ўзроўні трамвайнага дроту й ліхтарных шаломаў.

У горадзе ныс сьцішаны гул.

Нарэшце, пасьля бяздоннае паўзы, хтосьці выказваецца насьмерць:

— Герой на тое й герой, каб адзін раз забіць. Тым больш адсюль, краявід-такі снайпэрскі. А там усё высьветліцца. Разьбярэмся.

Стрэл попелу ў бок рэзыдэнцыі.

— Мяне не пакідае ўражаньне, — з сумневам уступае іншы, — што ўсе мы пакуль не гатовыя. Мы самі ня ведаем, чаго хочам. Наш герой шчэ зусім малы, усё такое юначае й жаласнае... Глядзець немагчыма. Вось вы ўяўляеце сабе, што маняць? — зьвяртаецца ён да тых, хто паліць. — Што гэта будзе за краіна... Пасьля?..

— Хлопцу яшчэ расьці й расьці, — паціскае плячыма адзін.

— Ну, абрыдавалі, — зло абрывае наступны, — што ж нам цяпер яго, выкормліваць і гадаваць сорак гадоў, каб дзеячом стаў? Лухта. І ўвогуле, майце на ўвазе, спадарства, нічога ня будзе.

— Будзе! — ня вытрымаўшы, перапыняю я ўголас так, што спалоханым рэхам адкашліваюцца сьцены. — Беларусь будзе роўна такой, як у гэтым вакне. Ня трэба расейскіх штучак наконт таго, што дзелаць. Госпад Бог ведае, што зробіцца з гэтай краінай. Бо гэта Яго пакаленьне Х. Бо гэта Ягоны сьцяг бела-чырвона-белы. Але шляхі Яго несправядлівыя і герой разумее, што яму застаецца. Герой ахвярна аддасьць сябе, аддасьць на разрабаваньне, палюбіць усім сэрцам і зямлю сваю, і бліжніх, і ворагаў. І калі вы пабачыце, што за цуды ён будзе тварыць, вы зьдзівіцеся, а засаромецеся яшчэ больш. Бо я вам кажу, менавіта тады будзе дадзеная перамога. Нічога ня зьменіцца пасьля Лукашэнкі, калі не памяняемся мы самі!..

Я ў трансе. Я веру бясконца ў тое, што кажу. Я веру настолькі, што гатовы рвануцца ў паветра, проста раскінуць рукі, і ня ўпасьці. Лунаць!..

Хтосьці рэзка хапае мяне за плечы. «Ты што?!» — я бачу іхныя звар'яцелыя вочы, і разумею, што ледзь не ўзьляцеў.

***

Вялікі й страшны сон сьніцца герою. Ён у бурлівай мутнай рацэ, у патоку вірыючае паводкі, і вакол яго сутыкаюцца з трэскам, грувасьцяцца, усплываюць і пагружаюцца вывернутыя карчагі й бярвеньні. Ён выбіраецца на бераг, на чыгуначны схіл, у абвалы сыпучага друзу. Тут дым, адбылося крушэньне вагонаў. Ён кагосьці шукае сярод ахвяраў, кагосьці гукае, і раптам жахаецца думкі, што ў катастрофе застаўся жывы толькі ён і, самае страшнае, вінаваты ўва ўсім ён адзін... Далей забыцьцё, глыбокі глiністы яр, пілётка з чырвонаю зоркай, рэклямныя кадры... Суніцныя паляны, якія зьяўляюцца, як зьмiргнуць... Праз гады пасьля гэтага — сквэр, што разросься, стаў разлеглым і ціхім паркам. Нейкія людзі, здаецца, знаёмыя, перараджаюцца ў іншых, робяцца міліцыянтамі й дзядамі, а пад канец ператвараюцца ў родных сясьцёр... Галавакружна мяняецца час. Усё варочаецца, як цела ў ложку, уся Зямля абарачаецца вакол абодвух паўшар'яў мозгу, то падстаўляючы твар сьвету поўні, то паглынаючы цемрадзьдзю падушкі... І адзінае, што зразумела, што прысутнічае ўвесь час і паўсюль — неўсьвядомленая сіла, якая носіць, ахоўвае й выбаўляе, не дае ні загінуць, ні прачнуцца. І гэтая сіла ёсьць бясспрэчнай праўдай, і яна надае сну найвышэйшы сэнс.

***

Мы чакалі доўга й нерухома, да анямення ў целе. Усё было як і раней, толькі горад прыкметна пацішэў, і на ўсходзе, за Канцэртнай за-

*Працяг на старонцы 14.*

Міхась нідзе не працаваў і таму вельмі стамляўся за дзень. Сёньня ён стаміўся асабліва, бо зьбіраўся да Чаплі на дзень ражджэньня. Чапля папраўдзе звалася Аксанай, а за «Чаплю» гатовая была задушыць. Час ад часу Міхаська яе кахаў. Чапля працавала на вакзале – прадавала квіткі інтурыстам, а таксама патрэбным людзям. З такімі квіткамі можна было заехаць вельмі далёка.

## Мікола Рабчук

# ДА ЧАПЛІ НА ДЗЕНЬ



Міхась зьбіраўся ўвесь дзень, але ўрэшце пайшоў у будзённай вопратцы, бо, вяртаючыся назад уначы, можна паваліцца ў гразь, дый госьці на такіх сьвятах, як вядома, бываюць розныя: некаторыя проста фізычна не пераносяць чыстых кашуляў і гальштукаў. У двары Міхась спаткаў Доктара.

Доктар быў чалавек ціхі: хадзіў з брунатным «дыпляматам». Ён скончыў стаматалягічны факультэт мэдыцынскага інстытуту і працаваў цяпер грузчыкам на заводзе аўтапагрузчыкаў. У вольны час Доктар займаўся ёгай: сьцьвярджаў, што ня есьць і ня п'е, хоць насамрэч і еў, і піў.

Піў Доктар усё, што гарыць.

Тыдзень таму ён атрымаў зарплату і цяпер ледзь не штоночы бачыў Канфуцыя. Міхаська пайшоў зь ім на піва, бо й сам быў ня супраць бліжэйшага знаёмства з Канфуцыем, нягледзячы на яго кітайскае паходжаньне.

У брудненькім, зь невынішчальным пахам ванітаў павільёне Доктар распавёў яму пра пераўвасабленьні Буды і пра несьмяротнасьць душы.

Міхаську гэта спадабалася, але ён зусім не жадаў, каб ягоная душа пасьля сьмерці перасялілася ў нейкую карову, якую гаспадыня штодня будзе цягаць за цыцкі і штогод вадзіць да бугая. Думка, што ня ўсё тое, што добра для паўфэадальнай Індыі, прыймальнае для нас, узьнікла і замацавалася ў ім.

– Час ісьці – выдыхнуў Міхась і даканаў сваё віншча, якое Доктар купіў замест піва, дзеля вышэйшай калярытнасьці.

– Куды? – зьдзівіўся Доктар, але Міхась зьдзівіўся яшчэ больш.

– Як гэта «куды»? – сказаў ён. – На дзень ражджэньня да Чаплі!

– А я яе знаю? – спытаўся Доктар.

Міхасёк паварушыў мазгой і выдаў:

– Мабыць, што не.

– Нядобра хадзіць на дзень ражджэньня да незнаёмых людзей, – сказаў Доктар і замовіў яшчэ дзьве шклянкі віна.

– Яна вельмі добрая дзяўчына, – сказаў Міхась. – Ты ня думай, што яна Чапля і зусім непрыгожая. Яна цудоўная дзяўчына, лепшая за нас з табою.

Ён сказаў шчырую праўду, якую, аднак, імгненна аспрэчыў Канфуцый:

– Ня квапся, – вымавіў ён Доктаравым голасам і ўзьняў дагары запэцканы гарчыцай палец, – і ня дбай пра дробныя выгоды. Хто квапіцца, той не заходзіць далёка. Хто дбае пра дробныя выгоды, той не ўздымаецца да велічных зьдзяйсьненьняў. Шляхетная асоба мае вялікія мэты, нікчэмнасьць – да дробных імкнецца.

Міхась расчуліўся і голас ягоны затрымцеў:

– Яна добрая. Яна сказала, што мы можам ня браць шлюб, покуль я сам гэтага не захачу. А ўзімку я згубіў рукавіцы, дык яна купіла мне новыя.

– Як гэта ўсё нікчэмна, – уздыхнуў Доктар. – Нельга так нікчэмна жыць. Ты чытаў калі-небудзь Лі Бо?

Міхась не чытаў.

Доктар ведаў вершы Лі Бо на памяць і пачаў іх дэкламаваць. Чырвананосая буфэтчыца, якая нічога ня цяміла ў паэзіі, выштурхала іх разам зь Міхаськом надвор. На дварэ яны сустрэлі Капітона.

– Здароў, Капітон! – радасна зароў Міхась і палез цалавацца. Капітон быў цьвярозы і абрадаваўся нашмат менш.

– Адвалі, казёл! – сказаў ён. – Я табе ніякі не Капітон.

Насамрэч ён быў усё-ткі Капітонам і прозьвішча ягонае было Капітонаў, але зь дзяцінства хлапчына чамусьці ўбіў сабе ў галаву, што ўсе павінны клікаць яго Капітонам. Мянушка Капітон утварылася як кампраміс паміж ружовай марай і цёмна-брунатнай рэальнасьцю. На яго рэальнасьць кідаў цень кожны першы-лепшы. Найбольшыя намаганьні ў гэтай справе прыкладаў галоўны мастак тэатру лялек, дзе Капітон працаваў дэкаратарам. Капітон вырабляў, трэба сказаць, лялькі, аднак усе пэрсанажы, у тым ліку і самыя пазытыўныя, выходзілі з-пад яго разца падобнымі да балотнай пачвары Бабы Ягі. Зараз у дадатак да службовых непрыемнасьцяў, нейкая малая сікуха навешала яму лапшы, паабяцаўшы прыйсьці ў майстэрню – падзівіцца на яго творы. Сікуха не прыйшла, і Капітон хадзіў, абвешаны лапшой, злы на лялечны тэатар і, увогуле, на лялечны сьвет.

– Хадзем з намі на дзень ражджэньня, – прапанаваў яму Міхась.

– А кір там будзе? – недаверліва перапытаў Капітон.

– Там будзе мора кіру і купа баб'я, – паабяцаў Міхась.

– Трэба купіць падарунак, – падказаў Доктар.

– Я падарую карціну. – пагадзіўся Капітон. Ён, праўда, ня ўмеў маляваць, аднак менавіта таму ўпарта лічыў сябе мастаком-прымітывістам з ухілам да мадэрну.

– Я думаю, варта было б кветак, – сказаў Доктар.

– Дужа ты мудры, – запярэчыў Міхась. Доктар і насамрэч быў дужа мудры, аж брыдка. – Яна глядзець ня можа на кветкі, – растлумачыў Міхась. – Яна іх люта ненавідзіць!

– А што ж яна любіць? – пацікавіўся Доктар.

– Яна... яна... (Міхась аблізаў перасьмяглыя вусны, перш чым асьмеліцца на шчырасьць) – яна любіць віно!

– Сапраўды, – падтакнуў Капітон, – я сам ведаю прыстойных дзяўчат, якія больш за ўсё на сьвеце любяць віно. Іх можна абразіць кветкамі або іншымі якімі бразготкамі.

Аксана была добрая дзяўчына і ніхто не захацеў яе абразіць.

У гастраноме яны набылі пяць пляшак пладова-ягаднага віна «Лучистое» агульнай ёмістасьцю каля чатырох літраў, прычым на апошнюю бутэльку ім нястала дваццаць капеек. Гэтыя капейкі знайшліся ў экс-авіятара Лёшы, які незалежна шпацыраваў у арэале дасяглальнасьці гастраному, шукаючы нязьведаных прыгод і рамантычных сустрэч. Пляшкі былі акуратна разьмеркаваныя ў доктаравым дыплямаце, а экс-авіятар Лёша – акі ісьцінны сябар – пайшоў з грамадой да Чаплі на дзень нараджэньня.

Дзесьці на ўскраіне Левяндзіўкі Міхасёк забыўся на Чаплін адрас. Будынак, у якім яна жыла, мусіў быць адна- або двухпавярховы, з балконам ці без, з гародам ці з садам, уваход збоку або ззаду. Так выглядалі ці ня ўсе будынкі, таму неўзабаве хлопцы забрылі ў лес, дзе й выпілі ад launched 

# САЛЮТ ГЕРОЮ

*Працяг са старонкі 13.*

ляй, пачало віднець. Ранішнія аблокі запаволеным валам плылі над прасторамі небакраю туды, дзе займаўся сьвітанак. Хтосьці зморана сплюнуў і нахіліўся паглядзець, як плясьне



ўнізе. Усе пачулі.

— Раю расслабіцца, хлопцы, — сказаў старэйшы з нас. — Усё-ткі нічога ня будзе. Хадзем адсыпацца.

Ён выбраўся з праёмы вакна, з крэхтам пацягнуўся, абтрусіў далонькю штаны. Усе моўчкі глядзелі, як ён зграбае ў гронку кубачкі з лыжачкамі на партах. Усе бачылі, як ён выпастаўся — і раптам застыў, зірнуўшы паверх галоваў. У дрыжачай руцэ тонка й пранізьліва зазьвінелі, як срэбныя бомікі, лыжачкі ў парцаляне.

— Неба, — кіўнуў ён.

Ціха ўспыхнула, заружавела, яе вянец, высокае воблачка. Праз імгненьне фокусам бліскавіцы хмары з самага дна азарыла румянцам. Зь непрыкметным промнем сэкундавае стрэлкі паўнеба ярчэла, разгаралася ў пяшчотным райскім тамленьні — і вось пад нейкім аптычным вуглом велізарным пераламленьнем скрозь палыхнуў малінавы жар. Увесь нябёсны цуд, адухоўлены сонечным ветрам, залпам ахапіў вышыні, бязгучным азораным выбухам раскінуўся ад краю да краю. Фантастычныя, як пер'е аграмаднага паветранага крыла, разьмяталіся вoблачныя барозны. Глыбокія хмары праціла невыразным унутраным рухам. У іх клубах узьніклі няпэўныя вобразы, прывідныя грамады, падобныя да гарадоў, паркаў і людзкіх натоўпаў; яны будаваліся й раставалі перад нашым захопленым позіркам. Ад гэтага займала дух.

Дробныя дымныя сьляды, урыўкі хмараў, расьцягнутыя чарадой, быццам кодавыя радкі, занатаваныя ў небе, прапалі гэтак жа загадкава, як і зьявіліся. Раптам спалохаўся зрок: жжкія аблокі ўсе разам зьбляднелі, промні расьсеяліся, спрахлі яркія фарбы. Сонца распаленым шарам рванулася зь нетраў, асьляпіла вокны сталічнага амфітэатру, і скрозь воблачныя руіны заглыбінеў невымерна ясны, напоены дзённым сьвятлом, блакіт. Пачыналася заўтра.

Мае вочы ўсё яшчэ былі паглынутыя сонцам і адценьнямі, калі я ўзрушана агледзеў празрыстую, выразную да апошняе рыскі карціну раньняга гораду. І тут мяне літаральна ўдарыла токам.

Зьдзейсьнілася.

На галоўным штыры краіны трапятаўся бела-чырвона-белы. Адсюль было проста як на далоні відаць дзьве лёзкі — такія чысьцюткія, што яны проста зіхцелі на даляглядзе. Яны блікавалі ў заплюшчаных ад нявер'я вачох.

Мы аслупянелі.

Але гэта было яшчэ ня ўсё. Калі я азірнуўся на сваіх субяседнікаў, дык ледзь насамрэч ня лясьнуўся з дванаццатага паверху. Вядомы палітычны аглядальнік быў увесь сівы, як лунь, і яго выратоўвалі толькі знаёмыя акуляры. А рэдактар, заўважаны ўчора з рудаватым калючым шчаціньнем на пашчэнках, сядзеў зь дзікай барадой, прычым такой дрымучай і нахабна каштанавай, што я з маўклівым жахам абмацаў сваё падбародзьдзе (... голенае!), а заадно балюча папляскаў далоньню па шчоках. Пранізьлівыя, як кулі, за вакном праціўкалі птушкі.

— Сёньня што, пятніца?.. — адурэлым голасам спытаў аглядальнік.

Напэўна, пятніца, падумаў я. Ва ўсялякім разе, гэта ўжо яўна пятніца *пасьля Лукашэнкі.*

Што да гадзіньнікаў, дык і мэханічныя, і электронныя спыніліся разам ва ўсіх.

За сьпінаю грукнулі дзьверы. Гэта выходзіў герой. Я пазнаў яго сходу, з паў-абароту, хаця ва ўзмуж-

# РАЖДЖЭНЬНЯ

Хлопцы абышлі яшчэ некалькі вуліц і абстукалі ўсе весьніцы. Чаплі ніхто ня ведаў, а сапраўднае яе імя вылецела зь Міхаськовай галавы разам зь вялікай колькасьцю іншай інфармацыі.

Ужо зусім сьцямнела, і сябры вярнуліся ў лес, дзе напяклі ў прыску бульбы з чужога гароду. Давялося выпіць яшчэ дзьве пляшкі, пасьля чаго Міхасёк сказаў, што ў Кіеў не паляціць, бо баіцца. Капітону таксама было страшна, і ён сказаў, што не паляціць ня толькі ў Кіеў, але і наагул нікуды. Сказаў, што нават зь месца ня зрушыцца, бо мае ўсіх у ... словам, у адным месцы. Доктар тым часам залез на дрэва.

– Я прыказываю ўсем устаць! – скамандаваў эксавіятар Лёша, адчуўшы, што надыходзіць час дзейнічаць вельмі рашуча. Ён тут жа растлумачыў цюхцяям, што загад ёсьць загад і хто яму не падпарадкоўваецца, таго трэба расстрэльваць.

– А пацалуй ты мяне ведаеш куды? – адказаў яму Капітон, за што атрымаў некалькі высьпяткаў, а калі паспрабаваў бараніцца, дык скрывавіў сабе выпадкова вусны. Пасьля гэтага Міхасёк узьняўся сам, а Доктар зваліўся з дрэва.

Начальнік Лёша пастроіў іх у шыхт і зь песьняй павёў па левандоўскіх вуліцах. На першым скрыжаваньні яны сутыкнуліся зь мясцовымі лайдакамі і зьведалі адчувальныя страты па ўсім целе. А найгорш, што апошняя бутэлька пладова-ягаднага віна разьбілася аб варожую галаву. Залізваючы раны, яны прыцягнуліся на нейкае падвор'е і сустрэлі там Чаплю. Ніхто яе не пазнаў, затое яна пазнала Міхаська па голасе.

Акрамя голасу ад Міхаська амаль што нічога не засталося.

У хаце было ласкавае сьвятло, музыка, танцы і прыгожыя дзяўчыны. Гэта быў маленькі рай, і Доктар, узьбіўшыся з нагамі на мяккі фатэль, удзячна маліўся вялікаму Будзе. Міхасёк глядзеў адзіным – незапухлым – вокам на імяніньніцу і плакаў ад шчасьця. Капітон здымаў са сьцяны ўсе упрыгожаньні, каб было дзе навесіць уласныя карціны, якія ён зьбіраўся на наступны дзень прынесьці. Экс-авіятар Лёша тым часам прагнуў каханьня.

Урэшце Чапля запытала ў Міхася, каго ён прывёў. Міхась захацеў растлумачыць, якія гэта цудоўныя людзі, захацеў распавесьці ёй пра перасяленьне душаў і пра тое, што ў наступным існаваньні ўсе – усе прысутныя ў гэтым пакоі – зробяцца кветкамі на адным вялікім сонечным лузе, зробяцца рознакаляровымі матылямі па-над сабой – аднак якраз у гэты момант яго прыкра званітавала, і ён званітаваў праз вакно. Усе зямныя няшчасьці, усе сілы пякельныя сабраліся ў адным пакоі, каб сапсаваць гасьцям нетрывалае шчасьце. Капітон скінуў з шафы крышталёвую вазу і, калі лавіў яе, разьбіў акварыюм. Залатыя рыбкі затрапяталіся на кіліме, а вада паплыла сабе да суседзяў. Хтосьці зь дзяўчат заверашчаў – салдат Лёша прагнуў каханьня. Лёс, відавочна, не хацеў каханьня. Лёс сам ня ведаў, чаго хоча.

Міхасёк зь сябрамі вылецеў з Парадызу і райская брама замкнулася за імі на два замкі, засаўку і ланцужок.

На падвор'і быў столік, і героі вырашылі адпачыць. Разьвітваючыся, авіятар Лёша прыхапіў пару-тройку адкаркаваных пляшак, а мастак Капітон высыпаў у дыпляматы тры талеркі – з каўбасой, капустай і заліўной рыбай. Піць авіятар Лёша ўжо ня мог, таму што ціха споўз пад стол і задрамаў. Мастак Капітон, паклаўшы сабе галаву на калені, выў манатонную й нікому ў сьвеце невядомую песьню. Доктар стаяў пад парканам на галаве і працягваў перарваную мэдытацыю.

Чыстае неба палала зоркамі. Міхась піў проста з пляшкі, закінуўшы высока галаву і цешыўся з прыгажосьці Сусьвету. Паветра пахла кветкамі, зоры зьмяняліся й міргалі. Сьвет быў цудоўны й неабдымны, а чарніла – брыдкае й нікчэмнае. Міхасёк гэпнуў недапітую пляшку аб мур будынку і яна, глуха боўкнуўшы, разьляцелася на дробныя драбніцы. Тады ён схапіў другую, але на імгненьне завагаўся. Быццам разьвітваючыся, паднёс яе шыйку да роту і раптам зглядзеў у небе самалёт. Самалёт ляцеў зусім нізка, закрываючы зоркі, і ўсярэдзіне сядзеў Буда. На ім быў шлем лётчыка і вялізныя акуляры. Буда заўважыў Міхася і сказаў:

– Мэдытуеш, Міхасёк?

– Так, о гуру, – адказаў Міхась.

– Кантэмплюеш, Міхась?

– Так, о гуру, – адказаў Міхась.

– Ах, мудак ты, мудак! – сказаў Буда і перш, чым Міхасёк пасьпеў адказаць, – пра штосьці спытацца, на штосьці пажаліцца, за штосьці папрасіць прабачэньня, – самалёт нагайдаў крыламі, набіраючы вышыню, і зьнік у кірунку Кіева.

Адам Глёбус

*Тэкстуальныя кантамінацыі, зробленыя на маргінэсе афарызмаў Франсуа дэ Ларошфуко*

# ІРАЦЫЯНАЛЬНАЕ

***

Калі нейкі чалавек беспадстаўна ненавідзіць цябе, і ты ў гэтым неаднаразова ўпэўніваўся, зрабі яму зло, каб нарэшце знайшоўся трывалы грунт для нянавісьці.

***

Выказваць недавер — глупства, лепш выкажы давер.

***

Зайздрасьць дакладна параўноўваюць з жабаю, якая сядзіць на грудзях, цісьне, не дае дыхаць, не дае жыць. Таму сьмяротныя грахі параўноўвай з гадамі.

***

Бог, прырода, лёс — занадта часта ўжываюцца як сынонімы, а насамрэч такімі не зьяўляюцца.

***

Выпадак раскрывае ў табе як лепшае, так і горшае, але кепскае праяўляецца ярчэй.

***

Наколькі лёгка здрадзіць, настолькі ж цяжка даравацъ здраду, калі наагул магчыма яе даравацъ, бо ўсё часьцей пераконваюся, што прэрагатыва дараваньня належыць Богу.

***

Лёгка даравацъ толькі тое, што ня крыўдзіць асабіста цябе.

***

I безнадзейны баязьлівец можа атрымаць мэдаль за адвагу.

***

Калі не разумееш — не асуджай.

***

У забойцы амаль заўсёды напагатове адвакат, а ў ахвяры яго чамусьці няма.

***

Лепей ты займей яскравую загану, чым пялегаваць вялую прыстойнасьць.

***

Калі пачынаеш прыніжацца перад тыранам, гэта яшчэ раз даказвае тваю непамерную пыхлівасьць.

***

Ёсьць і такія індывіды, што знаходзяць задавальненьне, назіраючы за пакутамі іншых; таму ў заапарку кармленьне ўдава трусамі зьбірае шмат гледачоў.

***

Натоўп на стадыёне ўстае, калі бачыць падзеньне чалавека.

***

Ухваляюцца, зазвычай, рэчы нікчэмныя.

***

Можаш і не заўважыць, як абедзены стол зойме ў тваёй сьвядомасьці месца алтара.

***

«Абставіны мацнейшыя за чалавека!..» Такімі словамі каты апраўдваюць свае злачынствы.

***

Лайдак заўсёды сьпяшаецца, бо ведае, што спозьніцца.

***

Не спадзявайся, што ўведаеш, па якой сьцежцы да цябе прыйдзе сьмерць.

***

Не давярай тым, хто зь лёгкім сэрцам разважае пра сьмерць.

***

Паводзіць сябе так, нібы ты несьмяротны, такое ж глупства, як упадаць у паніку ад думак пра немінучы скон.

***

Паверыць у несьмяротнасьць душы таксама цяжка, як прызнаць у сябе наяўнасьць сьмяротнай хваробы.

***

Паміж радзільняю і могілкамі няма аніякай розьніцы, кажуць самагубцы.



нелым, плячыстым хлопцы, кідка падцягнутым, ледзь скразіў учорашні надлетак. Мяне ўразілі вочы, фантастычна яркія, бліщчастыя вочы, у якія так хацелася й было так боязна паглядзецца.

Герой выйшаў з інтэрнату, вынырнуў у сьвежым паветры, і за ім шыкоўна бабахнулі шкляныя дзьверы. Ён зрабіў пару крокаў і, колькі хвіляў, рашуча дышучы, любаваўся бела-чырвона-белым сьцягам. Цудоўна. Пакуль гэта была адзіная дэталь у навакольлі, якая задавальняла яго. Усё астатняе ў Менску патрабавала неадкладнага выпраўленьня, адмываньня да люстранога бляску й роспалу сусьветнаю ласкай.

Усе гэтыя запаскуджаныя двары, заваленыя ржавыя бакі з душком, дамы з выбітымі шыбамі, якія ўчора былі запаветнымі катакомбамі для падпольшчыка, у сёньняшніх сонечных мроях шчамілі ўваччу да сьлёзаў. Літасьць да любага гораду, ненатольная прага чысьціні й прыгажосьці проста заступалі дух.

Ён мімаходзь падабраў, парасьпіхваў па кішэнях асабліва злосныя паперчынкі й цэляфаны, што перакочваліся на трамвайных шляхох. Стопрацэнтова, у бліжэйшыя дні трэба арганізоўваць у студгарадку суботнік. Невыносна глядзець на галодныя дрэвы, на пыльны аблуплены тынк, на брудны газон, што яшчэ не пасьпеў крануцца зелянінай. Так і карцела песьціць, выціраць, плюючы на далоні, хоць уласнай насоўкай, прыхарошваць усё — на каленях! — зацалоўваць так, каб квітнела, роднае, каб аж млела ад шчасьця... Ён удыхаў кубамэтрамі вольнае паветра, ён далёка мружыўся на палёт нейкае птушкі па-над горадам, і радасна адчуваў, што маладое магутнасьці многа, ты нават не ўяўляеш, наколькі многа — хопіць скрозь на ўсе вуліцы, паркі й дамы, на ўсё жыцьцё ў гэтым балючым і сонечным горадзе.

***

Калі мы ўсе разам, ледзь ня высадзіўшы дзьверы, выбеглі з інтэрнату, ён ужо перайшоў праз мост. Здалёк здавалася, ён ідзе проста гіганцкімі, нечалавечымі крокамі. Тое, што здарылася потым, мне даводзілася бачыць толькі ў гітах Галівуду.

Герой выбухнуў. Гэта быў бліскучы й аглушальны залп знутры самога сябе. Яркі, з іскрамётнымі люстранымі асколкамі Салют узьвіўся ў высі, і ў бліжніх шапіках з фэервэркам стракатых начыньняў палопалася шкло, ускалыхнуліся тэнты й палаткі «Дынама». Калі дым асеў, я заварожана пачуў, як дрыжаць і гудуць асьвятляльныя мачты.

Герой выбухнуў. Яго бачылі адначасова ў тысячы месцаў. Ён раздаваў рэфарматарскія брашуркі ў кватэрах Зялёнага Лугу і тут жа разьліваў бясплатны суп для ўдзельнікаў грамадзкіх работаў на Масюкоўшчыне. Ён акопваў шчэпы ў Чыжоўцы й тым жа часам даводзіў дзецям 74-е школы на вуліцы Ляўкова ўсю сутнасьць мяккага знаку. Гэта ён, паўгораду бачыла, штораніцы рэклямаваў на прыступках мэтро «Кастрычніцкая» «Зроблена ў Беларусі» бесьперапынным ударным рэчытатывам, хаця мне кляліся, што а дзявятай ягоная куртка мільгала як мінімум у адзінаццаці пунктах запісу ў Нацыянальную гвардыю запар. Ягоным каронным нумарам былі клюбы, сцэны, рок-фэсты й імпрэзы, якіх з рэформамі расплодзілася неймавернае мноства — адначасовыя, адразу ў дваццаці розных месцах гораду: ён заводзіў ашалелую публіку да экстазу. Пасьля такіх выступаў народ валам валіў на масавыя суботнікі й біржы добраахвотнае дапамогі. Яго іскрыстыя вочы, як спэцэфэкт, разраджаліся то на трыбуне мітынгу, то ў тэлеэфіры. Яго беларускамоўная хуткастрэльнасьць павяргала ў шок цэлыя дынастыі патомных расейскіх інтэлігентаў. Ягоны фірмовы знак — растапыраная пяцярня — за нейкія тыдні зрабіўся культава папулярным у нефармальных тынэйджэраў.

Я абярнуўся сказаць вам, што ён, па-мойму, зусім не ашчаджае сябе. Але ўсе вы ўжо былі ў залі Опэрнага, і раўлі, і топалі нагамі ад захапленьня, калі ён аб'яўляў выхад супэр-рок-гурта «Мясцовы час» з найвялікшым гітом усіх часоў і народаў.

***

Цяпер мне ня сорамна прызнацца, што апошнія некалькі гадоў я быў фанатам героя. Калекцыя яго вобразаў, якую мне ўдалося сабраць, хаця й далёка ня поўная, стала сэнсам майго існаваньня. І калі час ад часу я перабіраю дзясяткі тамоў і альбомаў з фотаздымкамі й газэтнымі выразкамі, сотні відэакасэтаў, шматпавярховую фанатэку й кампутаровыя дыскі з праграмамі, мне ўвесь час кідаецца ў вочы яго растыражаваная фраза, сказаная нейкаму прыежджаму журналісту, здаецца, амэрыканцу з CNN.

«Пасьля Хрыста ў чалавека засталася толькі адна праца. Кожны дзень я павінен рассаджваць сябе на тысячу асколкаў, бліскучых, вясёленькіх і шчасьлівых — і раздаваць іх людзям, каб хапіла на ўсіх».

*Красавік '99*

# PIVA ZA BIEŁARUŚ

*Мы працягваем ствараць рэйтынг самага беларускага напою. Дасылайце нам лісты з Вашымі сьпісамі пяці лепшых і аднаго найгоршага піва.*

Першае, што я марыў зрабіць пасьля выхаду з турмы, гэта зрабіць пару глыткоў добрага беларускага піва. Цяпер ужо я навёрстваю за 18-месячную адсідку і атрымоўваю гэтую непараўнаную ні з чым асалоду. Мой рэйтынг распачну з найгоршага, на мой погляд, гатунку «Канкурэнт» (Полацк). Двойчы піў гэты напой, і двойчы ён на тыдзень, а то і больш адбіваў мне ахвоту браць у рукі піўную бутэльку.

**Аляксей Шыдлоўскі, журналіст газэты «Навіны»**

Вельмі паважаю піва за натуральнасьць. А па-другое, я зьбіраю этыкеткі ад піва. Найгоршы гатунак — "Жыгулёўскае", які, здаецца, выпускаюць усе бровары нашай краіны, акрамя "Аліварыі" і глыбоцкага. Наконт беларускіх этыкетак, дык, мабыць, наваградзкі — адзіны завод, дзе цяпер усе 4 гатункі ідуць з нашымі этыкеткамі. На жаль, піва там адно з горшых. Самі разумееце, усе этыкеткі сабраць цяжка, таму надрукуйце аб'яву, хай шлюць этыкеткі, каму ня шкода.

**Андрэй Роўбуць, Жодзіна.**

Я стары аматар піва. Да піва прыахвоціўся ў студэнцкія гады, калі зь сябрамі наведваў бары «Ясень», «Шынок у Лявона» ды іншыя. Здаецца, у той час ці не найсмачнейшым было «Жыгулёўскае». Цяпер яно, наадварот, ці не найгоршае. Ніколі не забуду смаку піва, калі яго закусваеш вэнджаным палтусам ды мідыяў, якіх даволі пад'еў пад час працы на заробках у Мурманскім тралфлёце. Таксама вельмі раю пакаштаваць зь півам салёных агуркоў. Пакуль пісаў, прыйшло на розум самае дрэннае піва, якое трымаў у роце — «Нагана». Як мой дзядзька казаў: «Паскудзтва, брат, і не пытайся».

**Альбэрт Смалонскі, Менск**

Раней, калі ўжываў гарэлку, то піў разьдзельна, спачатку кілішак, другі, трэці, а праз гадзіну — шклянку піва. Да піва, калі ёсьць грошы, купляю рыбіну, а таксама ўжываю падсушаную палядвіцу, якую прывожу зь вёскі ад бацькоў. Таксама ўжываю піва ў часе футбольных матчаў з удзелам «СК» Ліда, размахваючы пры гэтым нацыянальным сьцягам. Адно, што мне не падабаецца ў нашым любімым лідзкім піве, гэта што клеяць расейскамоўныя этыкеткі. Да найгоршых гатункаў я адношу наваградзкае «Сьвіцязянскае» і некаторыя гарадзенскія напоі, якія ня маюць смаку й не даюць таго маленькага прыемнага хмелю. Затое ў іх назовы беларускія.

**Віктар Федасевіч, Наваградак**

# БЕЛАРУСКІ ГІТ-ПАРАД

**(КРАСАВІК–ТРАВЕНЬ)**

| ГУРТ | АЛЬБОМ | ВЫДАВЕЦ |
|---|---|---|
| 1. NRM | Пашпарт грамадзяніна НРМ | КОВЧЕГ |
| 2. ТРОІЦА | TROITSA | |
| 3. CD «ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: СЛУХАЙ СВАЁ» | (зборнік 15 беларускіх гуртоў) | БМА |
| 4.ЗЬНІЧ | Дух Зямлі. | ЗЬНІЧ |
| 5. Хор Унія | Маршы і песьні. | НАША НІВА |
| 6. Народны альбом. | (супольны музычны праект) | КОВЧЕГ |
| 7. Новае Неба | Мая Краіна | КОВЧЕГ |
| 8. Уліс | Танцы на даху | КОВЧЕГ |
| 9. Żygimont VAZA | Der dritte Krieg | БМА |
| 10-11. Віктар Шалкевіч | Балады і рамансы | Ton rec. |
| 10-11. Ліцьвіны. | Ой ў лузе, лузе... | Ліцьвіны |

Радыёварыянт беларускага гіт-параду можна пачуць кожны апошні чацьвер месяцу з 10.00 і кожную нядзелю з 13.30 на хвалях «РАДЫЁ-2» (Fm 70.4 Am 1197 kHz).

Гіт-парад складзены паводле продажу касэтаў і CD.

Набыць беларускую аўдыё-, відэа- і кніжную прадукцыю можна:

у Менску ў пераходзе на ст. м. Інстытут Культуры, у кіёску «Карона» ( каля крамы «Музыка»);
у Маладэчне ў кіёску ТБМ (на чыгуначным вакзале)
у Гомелі ў краме Audio-box ( Першамайская, 23)
у Віцебску ў кіёсках фірмы «САЮЗ»
у Сьветлагорску ў кіёску 93 ( р-н рэстарану «Пралеска»)
у Воршы ў краме «Пілот» (Леніна 16, тэл.44893)
у Магілёве праз тэл.(0222) 255785
у Берасьці праз тэл.(0162) 202087 і 264831
— праз сыстэму ""Касэты-поштай".

Зацікаўленыя ў супрацоўніцтве і распаўсюджаньні: а/с. 5, Менск, 220085 тэл. 8-(017) 2490888 Віталь



**Наступны нумар газэты выйдзе 14 чэрвеня, а зь 1 ліпеня яна стане штотыднёвай**




*28 мая 1909 году.*

**М. Капыль,** Слуцк. пав. Мен. губ. Вечарам 12 мая з Амэрыкі прыехаў сын мешчаніна Аляксея Багдановіча, дзяцюк гадоў 25, Паўлюк. Ён прабыў у Амэрыцы каля пяці гадоў і, кажуць, сабраў там шмат грошаў.

Да яго прыйшлі сваякі — пабачыцца і павітацца зь ім. Зайшоў гэтаксама да яго і мешчанін Анухрэй Багдановіч, што быў разам зь ім ў Амэрыцы, распытаць пра жыцьцё свайго сына ў Амэрыцы. Прыйшоўшы ў хату к Аляксею Багдановічу, Анухрэй застаў «мэрыканца» і радню яго за гарэлкаю. Анухрэй паслаў па гарэлку за свой паўрубель, а сам прысеў к сталу. За гарэлкай пачалася гутарка, у каторай «мэрыканец» папракнуў у нечым Анухрэя; той не зьлюбіў і пачаў выгаворваць сваю помач Паўлюку на караблі. «Мэрыканец» зазлаваў і, даўшы Анухрэю па твары, выкінуў яго з хаты...

Ліха надало пасварыўшымся ізноў спаткацца. Анухрэй, каб пасароміць «рызыканта-мэрыканца», прыгразіў на яго: «Чакай жа, калі ты гэтакі! Вось я заўтра твае каровы не пушчу на поле!» (У Паўлюковых бацькоў няма поля, і яны наймаюць пашу ў обчаства.) Тады Паўлюк са швагрусём кінуліся на Анухрэя і добра натаўклі яго. На крык Анухрэя некаторыя мяшчане павыбягалі з хат. Дазнаўшыся, у чым справа, пачалі ўпрошваць Анухрэя, каб ён ішоў спаць. Той не захацеў і пачаў крычаць: «Я пайду за імі ў карчму — хай дабіваюць!» Яго пакінулі на вуліцы.

Назаўтрае досьвіткам начлежнікі першыя знайшлі недалёка ад шынка Анухрэя нежывым. Далі знаць сваім, а тыя ў скорасьці адбілі тэлеграму сьледавацелю ў гор. Нясьвіж і данясьлі паліцыі, каторая пасьпяшалася арыштаваць «госьця-мэрыканца», яго бацьку і швагруся... Чы Анухрэй згарэў ад гарэлкі, чы яго прыдушылі Паўлюк-мэрыканец з бацькам і швагрусём — невядома, бо ніякіх ні сінякоў, ні ранаў няма. Таксама нічога пэўнага не дазнала паліцыя, ні дактары, каторыя нябожчыка парэзалі. Пакуль што, Анухрэя пахавалі; сьледавацель абяцаў шчыра ўзяцца за справу.

Як было, так было, але чалавек гэты прапаў праз гарэлку. Ужо, здаецца, добрая навука ласунам да гарэлкі!.. Няўжо ж ніводзін не ўбаіцца і не пакіне піць?..

*Цішка Гартны*



«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Набор Анастасіі Мацяш. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. Адрас для допісаў: 220050 Менск а/с 537. Tel/fax (017) 227-78-92 E-mail: niva@user.unibel.by http://members.xoom.com/Nasa_Niva.

 Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 2838. 8 палос фарматам A2. Нумар падпісаны ў друк 18[00], 23.05.1999. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова N2469

Кошт свабодны.

Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня N 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г. Менск, пр. газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12